19 студзеня 2018 | № 1 (564)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144













# Медаль для старшыні ЦВК

**Самую вялікую пагрозу беларускай стабільнасці ўяўляе выкананне беларускіх законаў. Менавіта так можна зразумець апошнія выказванні старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай**



Сяргей ПУЛЬША

Лідзія Міхайлаўна задумалася пра 2020 год, калі павінны прайсці як парламенцкія выбары, так і прэзідэнцкія. Выбары прэзідэнта павінны адбыцца не пазней за 30 жніўня 2020 года, а выбары ў Палату прадстаўнікоў — не пазней за 10 верасня 2020 года. Падавалася б, што ў гэтым страшнага для адладжанай палітычнай і выбарчай сістэмы? І больш за тое, можна нават зэканоміць бюджэтныя сродкі.

Але, на думку старшыні ЦВК, сумяшчэнне гэтых двух палітычных падзеяў будзе катастрофай. «Прэзідэнцкія і парламенцкія выбары не сумяшчаюцца, таму што гэта расхістванне асноў улады. І тут можна зэканоміць так, што страціць наогул усё», — сказала Лідзія Міхайлаўна TUT.BY.

Яшчэ раней, у інтэрв'ю тэлеканалу «Беларусь 1» яна заявіла, што праводзіць дзве буйныя выбарчыя кампаніі ў адзін год немэтазгодна, і таму адна з кампаній пройдзе ў 2019 годзе. Якая менавіта — кіраўніца ЦВК пакуль не ведае.

Вось тут і ўзнікае пытанне заканадаўства. Беларускія законы ўсталёўваюць даты выбараў толькі «не пазней» пэўнага тэрміну, а пра «не раней» — гаворкі не ідзе. Больш за тое, ужо быў прэцэдэнт 2006-га, калі па законе прэзідэнцкія выбары павінны былі адбыцца ўвосень, а прайшлі ў сакавіку.

Калізія ў тым, што адносна датэрміновых выбараў (парламенцкіх ці прэзідэнцкіх) аўтаматычна скарачаецца тэрмін працы ўжо абраных дэпутатаў і кіраўніка дзяржавы. У Канстытуцыі запісана: тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта — 5 гадоў, парламента — 4 гады. І гэтыя тэрміны нельга скарачаць па жаданні старшыні ЦВК. А ў выпадку, калі, напрыклад, парламенцкія выбары пройдуць у 2019-м, атрымліваецца, у дзейнага парламента «вылятае» год працы. Наколькі гэта законна?

А калі датэрміновa будуць праходзіць прэзідэнцкія выбары? Паводле тлумачэнняў Ярмошынай, «адразу правялі інаўгурацыю, і ўступае ў пасаду новы чалавек — ніхто 8 месяцаў чакаць не будзе. А ў папярэдніка скарачаецца тэрмін паўнамоцтваў».

Гэта вельмі ўтульная пазіцыя, калі паўнамоцтвы перадаюцца, напрыклад, ад Лукашэнкі да Лукашэнкі. А раптам будзе не так? Раптам нешта здарыцца, і замест Аляксандра Рыгоравіча абяруць новага кіраўніка дзяржавы? Можа быць, гэта і фантастычна, але не менш фантастычным будзе тое, што Аляксандр Рыгоравіч добраахвотна пагодзіцца скараціць тэрмін сваіх паўнамоцтваў — хай і на восем месяцаў.

І больш цікавае пытанне — чаго ўсё ж такі палохаецца Лідзія Ярмошына? Чаму сумяшчэнне выбараў, на яе думку, можа прывесці да «расхіствання асноваў улады»? Чаму раней яна беспяшкодна праводзіла сумяшчальныя з выбарамі рэферэндумы, а тут сумяшчэнне дзвюх кампаній раптам прывядзе да «страты наогул усяго»? Што гэтае «ўсё», што Ярмошына так баіцца страціць?

Гэтае «ўсё», зразумела, — улада. Нашае кіраўніцтва доўга змагалася з сацыялагічнымі службамі і дамаглося таго, што знішчыла незалежную сацыялогію ўвогуле. Але на пабытавым узроўні настроі грамадзянаў усё роўна адчуваюцца. І ўсё больш і больш народу галасуе за кандыдатаў па адным крытэры: «За Лукашэнку ці супраць». І тых, хто супраць, дзякуючы нашай «мудрай» сацыяльна-эканамічнай палітыцы, становіцца ўсё больш. І, паводле асабістых назіранняў, гэтыя «новыя супраць» — значна больш агрэсіўныя, чым традыцыйная «старая» апазіцыя.



Малюнак www.karel.mk.ru

У выпадку «разводу» выбарчых кампаній можна было б з часам суцішыць хвалю незадаволеных. А калі прэзідэнцкая і парламенцкая кампанія будуць сумешчаныя, то супраць дзейнага кіраўніка дзяржавы выступяць не тры-пяць, а сто-дзвесце апанентаў, якія будуць балатавацца ў парламент. І тут ужо не скажаш, што «апазіцыя слабая», і не адкруцішся, ігнаруючы дэбаты і выступы па тэлебачанні.

Таму старшыня ЦВК імкнецца, хоць і сумнеўнымі сродкамі, захаваць існуючую ўладу. Але, насамрэч, Лідзія Ярмошына закладае незаўважную доўгатэрміновую бомбу не пад дзейсную ўладу, а пад сістэму дзяржавы наогул. І гэта значна больш небяспечна, чым можа падавацца на першы погляд.

> **Старшыня ЦВК закладае незаўважную бомбу пад сістэму ўлады і дзяржавы наогул**

Калі здарыцца неверагоднае — у нас сумленна палічаць галасы, і Лукашэнка на выбарах прайграе — улада ўсяго толькі пяройдзе ад аднаго чалавека да другога. Калі старшыня ЦВК на сумнеўных падставах «развядзе» выбары, гэта будзе вельмі дрэнны прыклад, які непазбежна адаб'ецца на свядомасці людзей.

Калі высокія прадстаўнікі ўлады маніпулююць выбарчымі лічбамі і тэрмінамі, то ў кожнага ўзнікне пытанне: «Ім можна, дык чаму мне нельга?» Калі можна перасунуць выбары, то чаму нельга перасунуць радкі ў бухгалтарскіх дакументах? Калі старшыня ЦВК па сваім жаданні ігнаруе заканадаўства, то чаму не можа ігнараваць заканадаўства прадпрымальнік, бізнесовец, звычайны працоўны?

І такое светаўспрыманне можа прывесці да таго, што мы страцім дзяржаву наогул — разам з уладай, якая сама сабе апусціць «ніжэй за плінтус» і страціць усялякі аўтарытэт увогуле.

За падобныя ініцыятывы я б выдаў Лідзіі Ярмошынай медаль — ад удзячных удзельнікаў мясцовага анархічнага руху.

# Колькі зарабляюць ІП?

**У Беларусі вызначылі самыя прадпрымальныя рэгіёны. Лідарам апынулася Мінская вобласць, дзе больш за ўсё ІП на тысячу жыхароў.**

Рэйтынг склала пляцоўка абʼяваў «Куфар» на аснове афіцыйнай статыстыкі і ўласных дадзеных.

Мінская вобласць лідзіруе па агульнай колькасці ІП і іх долі сярод насельніцтва. У самым прадпрымальным рэгіёне, без уліку сталіцы, налічваецца 26 ІП на тысячу жыхароў. Больш толькі ў Мінску — каля 40 ІП на тысячу гараджан.

Другое месца займае Гродзенская вобласць, дзе на тысячу жыхароў прыпадае каля 23 ІП. Трэцяе — Брэсцкі рэгіён. Развіваецца малы бізнес і ў Магілёўскай вобласці, дзе на сябе працуе звыш 2,1% насельніцтва. За ёй ідзе Гомельскі рэгіён з 19 ІП на тысячу жыхароў. Найменш прадпрымальная Віцебская вобласць: сваю справу адкрыла ўсяго 1,8% насельніцтва.

Больш за ўсіх ІП зарабляюць у Мінску, дзе абарот на аднаго прадпрымальніка складае каля 2500 рублёў на месяц. За межамі сталіцы выгадна весці справы ў Брэсцкай вобласці, дзе ІП ў сярэднім маюць абарот каля 2300 рублёў. Другое месца сярод рэгіёнаў займае Гродзенская вобласць з 2270 рублямі на кожнага ІП. Амаль на 70 рублёў менш атрымліваюць ІП на Гомельшчыне. Радком ніжэй ідзе сталічны рэгіён, дзе абарот ІП звычайна складае 2170 рублёў. Менш зарабляюць прадпрымальнікі ў Магілёўскай вобласці (2060 рублёў), а замыкае спіс Віцебскі рэгіён — тут ІП могуць разлічваць на абарот у 2030 рублёў у месяц.

Большасць ІП у Беларусі займаецца гандлем, будаўніцтвам і перавозкамі. У кожным рэгіёне ў гэтых сферах працуе больш за палову зарэгістраваных ІП. Выключэнне складае толькі Мінск, дзе на другое месца пасля гандляроў выйшлі кансультанты, дызайнеры і фатографы.

Кожны рэгіён мае свае асаблівасці. Прадпрымальнікі Мінскай вобласці зарабляюць на вытворчасці і будаўніцтве, Віцебскай — на сельскай гаспадарцы, а Брэсцкай — на медыцынскіх і сацыяльных паслугах. На Гомельшчыне папулярныя паслугі часовага пражывання і харчавання.

Усё больш прадпрымальнікаў сталі ствараць стартапы. Атрымліваюць развіццё і новыя формы фінансавання бізнесу, такія, як краўдфандынг. Яшчэ адной тэндэнцыяй стаў рост колькасці жанчын сярод ІП.

**Паводле thinktanks.by**

# Юбілей БНР зʼяднаў апазіцыю?

Сяргей ПУЛЬША

**Падаецца, што стагоддзе з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі будзе агульным святам.**

8 студзеня адбылася сустрэча палітычных і грамадскіх актывістаў, якія падтрымалі ідэю рады Беларускага нацыянальнага кангрэсу стварыць абʼяднаны камітэт па падрыхтоўцы масавага святкавання 100-годдзя БНР 25 сакавіка ў Мінску. Аднак старшыня руху "За Свабоду" Юрась Губарэвіч і экс-лідар Партыі БНФ Аляксей Янукевіч заявілі, што ўжо створаны аргкамітэт па святкаванні 100-годдзя БНР на чале з Радзімам Гарэцкім, а таму няма сэнсу ўваходзіць у новы.

Пазней прадстаўнікі абодвух аргкамітэтаў сабраліся разам. У выніку БНК прыняў рашэнне далучыцца да працы аргкамітэту на чале з Радзімам Гарэцкім. Прынамсі, адзін з лідараў БНК Уладзімір Някляеў напісаў, што на пасяджэнні аргкамітэту 15 студзеня «былі і рух «За Свабоду», і БНФ, і БХД, і АГП». Яшчэ раней былы кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч казаў, што сябры працоўнай групы БНК могуць стаць структурнай часткай аргкамітэту пад кіраўніцтвам Гарэцкага.

Юрась Губарэвіч паведаміў: «І Някляеў, і Статкевіч прызналі: гэта адзіны аргкамітэт, які ёсць, ніякія паралельныя структуры стварацца не будуць... Асноўная пляцоўка — гэта аргкамітэт пад старшынствам Гарэцкага»,— сказаў палітык.

Такім чынам, ці не ўпершыню за доўгі час апазіцыйныя дэмакратычныя сілы будуць працаваць разам.

На гэтым жа пасяджэнні аргкамітэт прыняў рашэнне правесці 25 сакавіка ў Мінску святочнае шэсце. Някляеў паведаміў, што збор удзельнікаў шэсця запланаваны а 14.00 на плошчы Якуба Коласа, адкуль людзі рушаць па праспекце Незалежнасці да плошчы Свабоды. На плошчы адбудзецца маштабны двухгадзінны мітынг-канцэрт. У Мінгарвыканкам будзе пададзеная адпаведная заяўка.

«Рашэнне па святочным шэсці прынятае аднагалосна — і гэта першае супольнае рашэнне пасля доўгага перыяду спрэчак і ўзаемных абвінавачванняў, што стварае надзею на кансалідацыю беларускага дэмакратычнага руху. Аргкамітэт прыняў зварот да кіраўніцтва краіны, каб дзень 25 Сакавіка, у які была абвешчаная незалежная Беларуская Народная Рэспубліка, стаў святочным», — напісаў Някляеў.

# Пётр Іваноў: «У СІЗА мяне збівалі да паўсмерці»

**У судзе Кастрычніцкага раёна Віцебска 15 студзеня адбылося першае пасяджэнне па крымінальнай справе, распачатай супраць актывіста Пятра Іванова. Яго абвінавачваюць паводле 1-й часткі артыкула 366 КК РБ (гвалт альбо пагроза ў дачыненні да службовай асобы, якая выконвае службовыя абавязкі).**

Крымінальную справу супраць яго распачалі па заяве судовага выканаўцы Кацярыны Прыгажаевай, якую ён выгнаў са свайго дому, нібыта выкарыстаўшы гвалт.

У судзе актывіст заявіў, што ў СІЗА яго жорстка збівалі. Адразу папрасіў суддзю, каб той дазволіў падчас дачы паказанняў не ўставаць з лавы, патлумачыўшы, што пасля збіцця ў яго баляць ногі. Пазней яшчэ раз казаў пра гвалт у СІЗА: «Мяне тройчы збівалі, апошні раз — да паўсмерці».

Іваноў сказаў, што 9 студзеня накіраваў заяву аб катаваннях у пракуратуру, але ці выйшла яна за межы СІЗА, ён не ведае. Напрыканцы пасяджэння прасіў правесці медэкспертызу. Паводле слоў Іванова, апошнія 37 сутак ён правёў у карцэры.

Абвінавачаны паведаміў, што частку неабходных дакументаў, якія рыхтаваў для суду, у яго адабралі ў СІЗА. У тым ліку — скаргу на рашэнне аб падаўжэнні меры стрымання пад вартай.

Пасля таго, як Іваноў заявіў хадайніцтва аб тым, каб па абставінах справы ў якасці сведкаў былі апытаныя ягоная дачка і жонка, выявілася, што абвінавачаны дагэтуль не азнаёміўся з матэрыямі справы ў поўным абʼёме. Спачатку не меў магчымасці па стане здароўя, а апошні раз (12 студзеня) адмовіўся сам, бо «пасля збіцця баяўся, што канчатковa забʼюць».

У выніку суд пастанавіў даць абвінавачанаму магчымасць азнаёміцца з матэрыямі крымінальнай справы ў поўным абʼёме ў прысутнасці сакратара суду.

Віцебскі праваабаронца Павел Левінаў, які прысутнічаў на судовым пасяджэнні, прызнаўся, што збіццё падследных у віцебскім СІЗА — не навіна для праваабаронцаў. Але ўлада на гэта не рэагуе.

«Я меркаваў, што пасля агучвання фактаў пра збіццё, судовае пасяджэнне будзе неадкладна прыпыненае, а Іваноў будзе накіраваны на судова-медыцынскую экспертызу. Але гэтага не адбылося», — кажа Левінаў.

Ён заўважыў, што ні суд, ні дзяржабвінаваўца не ўбачылі парушэнняў правоў Іванова, калі яго, чалавека пакуль што не асуджанага, вадзілі па судзе ў кайданках, а ў залі ўтрымлівалі ў клетцы, быццам асабліва небяспечнага злачынцу, якім ён не зʼяўляецца да ўступлення прысуду ў законную сілу.

Каментуючы факт ужывання катаванняў да абвінавачанага, юрыст ПЦ «Вясна» Павел Сапелка гаворыць пра неабходнасць правядзення неадкладнай праверкі агучаных на судзе фактаў пра збіццё.

«Безумоўна, для забеспячэння правоў абвінавачанага неабходная праверка выкладзеных ім звестак, якая павінна быць незалежнай і абʼектыўнай. Паводле яе вынікаў павінны быць усталяваны факт прычынення збіцця або цялесных пашкоджанняў, устаноўлены асобы, вінаватыя ва ўжыванні гвалту, а іх дзеянням павінна быць дадзена крымінальна-прававая ацэнка. Калі гвалт ужываўся службовымі асобамі альбо па іх даручэнні, то ў наяўнасці забароненае Канстытуцыяй і міжнароднымі абавязальніцтвамі Беларусі жорсткае абыходжанне», — адзначае юрыст.

Сапелка кажа, што Дадатак да Міжведамаснага плану па рэалізацыі рэкамендацый, прынятых Рэспублікай Беларусь па выніках праходжання другога цыклу УПА ў Камітэце па правах чалавека ААН і рэкамендацый, адрасаваных Рэспубліцы Беларусь дагаворнымі органамі па правах чалавека на 2016–2019 гады, змяшчае невялікі пералік мерапрыемстваў, накіраваных на паляпшэнне становішча з правамі чалавека пры ажыццяўленні правасуддзя.

Згодна з Планам на 2016–2019 гады, прадугледжана абмеркаванне пытання аб карэкціроўцы заканадаўства, якая прадугледжвае прыпыненне разгляду крымінальнай справы ў судзе да правядзення праверкі заяў абвінавачанага аб прымяненні да яго катаванняў у мэтах дамагчыся прызнальных паказанняў.

**Паводле spring96.org**

# Перадача «Бульбаш-холу» творцам можа стаць пачаткам грамадскага дыялогу

Марат ГАРАВЫ

**Каб пазбегнуць чарговага супрацьстаяння ў Курапатах, дзяржаве варта выкупіць ва ўласніка абʼект прыдарожнага сервісу з былой назвай «Бульбаш-хол» і перадаць на баланс Беларускага саюза мастакоў ці некалькіх творчых саюзаў.**

Да такой высновы прыйшлі актывісты грамадскай ініцыятывы «Эксперты ў абарону Курапатаў» на сваім чарговым пасяджэнні, што днямі адбылося ў Мінску.

Эксперты абмеркавалі інфармацыю з недзяржаўных беларускіх СМІ пра тое, што комплекс адпачынку, пабудаваны ў 50 метрах ад Нацыянальнага некропалю і часткова на тэрыторыі яго былой ахоўнай зоны, рыхтуюць да адкрыцця, якое адбудзецца бліжэйшым часам.

Зыходзячы з мажлівай адмоўнай рэакцыі беларускага дэмакратычнага грамадства на адкрыццё «Бульбаш-холу», удзельнікі пасяджэння разгледзелі розныя варыянты, накіраваныя на тое, каб пазбегнуць канфрантацыі каля Народнага мемарыялу.

Пры гэтым было ўлічана меркаванне беларускіх архітэктараў — сябраў ініцыятывы пра тое, што нават вяртанне забудаванай «Бульбаш-холам» тэрыторыі плошчай у 1,1 гектара ў склад ахоўнай зоны Курапатаў і рэжым яе ўтрымання не азначаюць абавязковага разбурэння наяўных будынкаў, але дазваляюць прыстасаваць іх пад функцыі, якія адпавядаюць патрэбам Нацыянальнага некропалю.

На думку грамадскай дзяячкі Валянціны Свяцкай, комплекс можна прыстасаваць для экспанавання адмысловых выставаў, прысвечаных Курапатам і тэматычы масавых палітычных рэпрэсій эпохі савецкага таталітарызму.

Гэтую ідэю развіў грамадска-палітычны дзеяч і мовазнаўца Вінцук Вячорка, які нагадаў, што творчая суполка «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў з самага адкрыцця Курапатаў беларускімі археолагамі на чале з Зянонам Пазняком вясною 1988 году амаль 30 гадоў актыўна працуе на стварэннем ва ўрочышчы Народнага мемарыялу. Таму было б лагічным, каб дзяржава выкупіла «Бульбаш-хол» ва ўласніка і перадала гэты комплекс на баланс Беларускага саюза мастакоў (БСМ) для арганізацыі рознабаковай творчай дзейнасці ў інтарэсах Курапатаў, уключаючы правядзенне адмысловых пленэраў, выставаў і конкурсаў, сказаў Вінцук Вячорка.

Падчас далейшага абмеркавання пытання эксперты прыйшлі да высновы, што калі ж аднаму БСМ будзе цяжка ўтрымліваць былы «Бульбаш-хол», праблему можна вырашыць перадачай гэтага комплексу прыдарожнага сервісу на баланс шэрагу творчых саюзаў. Гаворка, у тым ліку, ідзе пра Саюз беларускіх пісьменнікаў, Беларускі ПЭН-цэнтр, прафесійныя абʼяднанні архітэктараў, дызайнераў, кінематаграфістаў, музычных і тэатральных дзеячаў, майстроў народнай творчасці і Беларускі фонд культуры.

Як адзначалася на пасяджэнні, перадача «Бульбаш-холу» беларускім творцам будзе пазітыўна ўспрынятая айчыннай грамадскасцю і разам з прызнаннем неабходнасці мемарыялізаваць Курапаты засведчыць пра змены адносінаў дзяржавы да Нацыянальнага некропалю, стане пачаткам грамадскага дыялогу ў краіне.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# У каго бісер дробны?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Аляксандр Рыгоравіч на прыёме прадстаўнікоў СМІ і творчай інтэлігенцыі пад Стары новы год агаломшыў прызнаннем: «Жыццё ў нас не выдатнае, і нават не добрае. Пакуль мы жывем вельмі сціпла». Але паняцце «сціпла», як высветлілася, для кожнага сваё.**

Паведамлялася, што Лукашэнка на вышэйзгаданым прыёме ўзнагародзіў журналістаў дзяржаўных медыя — у асноўным, журналістаў прэзідэнцкага пула. Але праз некалькі дзён высветлілася, што гэты прыём быў не сціплымі вячоркамі, а такім сабе «вышэйшым дзяржаўным карпаратывам». На відэа з мерапрыемства былі заўважаныя самыя высокія чыноўнікі краіны: ад Кабякова і Карпенкі да Ярмошынай і Калаура. У сціве з'явіліся фотаздымкі з зоркамі беларускай і расійскай эстрады. І калі прадстаўнікі беларускай эстрады на гэтым вечары — заканамерныя (усё ж якая-ніякая, а «творчая інтэлігенцыя»), то наяўнасць побач з Лукашэнкам Наташы Каралёвай, Мікалая Баскава, Грыгорыя Лепса і Таісіі Павалій выклікала пытанні.

Інтэрнэт-рэсурс gazetaby.com пагляздела кошты на расійскае шоў. Выступ Наташы Каралёвай і яе суправаджэння каштуе каля 15 тысяч долараў. Выступ Таісіі Павалій і яе каманды — ад 23 тысяч «зялёных». Дакладных дадзеных наконт Мікалая Баскава і Грыгорыя Лепса няма — «дарага» і «па дамоўленасці». Аднак у расійскай прэсе няцяжка знайсці інфармацыю пра іх ганарары: Баскаў за выступ просіць каля 80 тысяч еўра, а Лепс, які выступаў на канцэрце апошнім, — каля 100 тысяч еўра.

Такім чынам, «вельмі сціплае жыццё» толькі за адзін вечар абышлося недзе ў чвэрць мільёна долараў.

Але гэта яшчэ не канец «сціпласці». Кіраўнік краіны, які з 2002 года ставіць задачу Беларускаму рэспубліканскаму саюзу моладзі перайсці на самаакупнасць, у чарговы раз падпісаў указ пра фінансаванне гэтай дэ-юрэ грамадскай арганізацыі цягам трох гадоў. У гэтым годзе БРСМ атрымае з дзяржбюджэту самую вялікую за дзесяць гадоў суму — 6,8 мільёнаў рублёў — каля трох з паловай мільёнаў долараў.

За дзесяць гадоў арганізацыя атрымала больш за 50 мільёнаў долараў ад беларускіх падаткаплатнікаў, падлічыла zautra.by.

Дзяржбюджэт выдзеліць БРСМ больш сродкаў, чым на захады па папярэджанні інваліднасці і рэабілітацыі інвалідаў (1,9 мільёна рублёў), дзяржпраграмы падтрымкі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва (2,4 мільёна).

Артыкул выдаткаў на БРСМ большы за выдаткі рэспубліканскага бюджэту на дашкольную адукацыю (5,1 мільёнаў рублёў), дадатковую адукацыю дзяцей і моладзі (6,1 мільёна), прыкладныя даследаванні ў галіне адукацыі (4,7 мільёна).

Усё было б добра, калі б мы ведалі, на што выдаткоўвае грошы БРСМ. Але гэта, як ні дзіўна, невядома. Дзіўна, таму што, зноў-такі, БРСМ — грамадская моладзевая арганізацыя. Бюджэт грамадскіх арганізацый павінен быць празрыстым. Але не: бюджэт БРСМ зачынены, што не дазваляе сачыць за выдаткамі саюза.

Класную рэч заўважыў кіраўнік праекта «Кошт урада» Уладзімір Кавалкін. Паводле яго меркавання, пра адсутнасць цікавасці моладзі да БРСМ і нізкай папулярнасці арганізацыі сведчыць невялікая колькасць іх падпісчыкаў у сацыяльных сетках. Улічваючы, што маладыя людзі — актыўныя карыстальнікі інтэрнэта, іх нежаданне сачыць за старонкамі арганізацыі даказвае — тое, што прапануе БРСМ за бюджэтныя грошы, моладзі нецікава. «Калі б іх мерапрыемствы і кантэнт былі цікавымі, моладзь туды б ламілася. Але калі суаднесці колькасць падпісчыкаў старонкі і колькасць чальцоў БРСМ, то мы зразумеем, што ў БРСМ людзей папросту заганяюць», — лічыць эксперт.

На пяцьдзясят мільёнаў долараў за дзесяць гадоў можна было б пабудаваць некалькі дзіцячых садкоў або школ, спансіраваць даследаванні ў медыцыне, павялічыць колькасць сацыяльных работнікаў, якія дапамагаюць самотным людзям з інваліднасцю і пажылым.

**29%**

**складае, паводле дадзеных BEROC, узровень абсалютнай беднасці ў Беларусі. За апошнія два гады гэты паказчык павялічыўся ў два разы. Абсалютна беднымі з'яўляюцца 40% вяскоўцаў і 25% гараджан. Бедныя — амаль траціна беларусаў!**

У той жа час Беларускі эканамічны даследча-адукацыйны цэнтр (BEROC) апублікаваў вынікі даследавання «Дэтэрмінанты беднасці ў перыяд эканамічнага росту і яго адсутнасці. Ацэнка дынамікі беднасці ў Беларусі ў 2009–2016 гадах». Паводле дадзеных арганізацыі, абсалютная беднасць у Беларусі за апошнія два гады павялічылася ў два разы і закранула 29% насельніцтва. Абсалютна беднымі з'яўляюцца 40% вяскоўцаў і 25% гараджан.

Паводле дадзеных Белстата, у Беларусі за рысай абсалютнай беднасці жывуць 5,7% насельніцтва. Але BEROC лічыў беднасць адрозна ад афіцыйнага падыходу. Белстат ва ўзроўні беднасці супастаўляе даходы і бюджэт пражытковага мінімуму. У даследаванні BEROC узровень беднасці ацэньваўся зыходзячы са спажывецкіх расходаў хатніх гаспадарак на задавальненне асноўных патрэбаў.

Відавочна, што лічбы BEROC больш аб'ектыўныя. Белстатаўскія 5,7% беднасці дазваляюць казаць, што ў нас усё добра. Асабліва ў параўнанні з Літвой, дзе доля насельніцтва, якая жыве за рысай беднасці, у 2016 годзе склала 22%, а паводле інфармацыі агенцтва Еўрастат — 29%. У Расіі, паводле афіцыйных дадзеных, узровень абсалютнай беднасці — 13,5%.

Але ў той жа час, паводле ацэнкі Сусветнага банка, ВУП на душу насельніцтва ў Літве складае 14 879 долараў, у Расіі — 8 748 долараў, а ў Беларусі — толькі 4 989 долараў. То бок, той, хто жыве за рысай беднасці ў Літве, у Беларусі — такі сабе «сярэдні клас».

Такім чынам, амаль траціна беларусаў — бедныя. Але і гэтую беднату працягваюць «даіць». Канешне ж, трэба аднекуль браць грошы на лаяльную моладзь і на «піры падчас халеры».

У 2017 годзе беларусы паставілі рэкорд па адміністрацыйных правапарушэннях, піша «Еўрарадыё». Згодна са статыстыкай, да такой адказнасці былі прыцягнутыя 3 915 140 грамадзян. Гэта амаль на 200 000 парушэнняў закона больш, чым годам раней, і наогул рэкорд за ўвесь час.

На канец 2017 года, па лічбах аддзелу народанасельніцтва Дэпартамента па эканамічных і сацыяльных пытаннях ААН, насельніцтва Беларусі складала 9 500 404 чалавекі. Такім чынам, больш за траціну з агулам узятых грамадзян Беларусі ў мінулым ужо годзе атрымалі адміністрацыйныя спагнанні. Адпаведна, заплацілі ў казну штрафы ці іншыя «суправаджальныя ўнёскі», як, напрыклад, аплата за ўтрыманне ў ізалятары (калі гэта быў адміністрацыйны арышт).

Ну дык вось вам і грошыкі на Лепса і Баскава!

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Алесь Чахольскі

**Актывіст Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ не дамогся ў Вярхоўным судзе права весці судовы працэс на беларускай мове.**

Алесь Чахольскі падаў скаргу ў Вярхоўны Суд на пастанову суда Фрунзенскага раёна ад 12 ліпеня 2017 года аб прыцягненні яго да адміністрацыйнай адказнасці за ўдзел у масавым мерапрыемстве ў абарону Курапатаў 3 сакавіка 2017 года. У скарзе Чахольскі, сярод іншага, пісаў, што ў судзе Фрунзенскага раёна было парушана яго права на карыстанне роднай мовай падчас разгляду справы — суддзя адмовіў у вядзенні працэсу на беларускай мове, а таксама ў прадстаўленні паслуг перакладчыка, аргументаваўшы гэта тым, што Канстытуцыяй замацаваныя дзве дзяржаўныя мовы і грамадзянін Беларусі абавязаны разумець абедзве.

Вярхоўны Суд адзначыў, што «з матэрыялаў справы відавочна, што вы ў дастатковай ступені валодалі мовай, на якой вёўся адміністрацыйны працэс, мелі права даваць тлумачэнні па сутнасці справы на беларускай або рускай мовах», — сцвярджае намеснік старшыні Вярхоўнага Суда Руслан Анісковіч.

Юрыст Алесь Лойка лічыць сітуацыю вельмі цікавай. Закон «Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь» не ўтрымлівае нормы, што грамадзянін павінен валодаць дзвюма дзяржаўнымі мовамі. А закон «Аб зваротах грамадзян» абавязвае службовую асобу даць адказ грамадзяніну на мове звароту. У той жа час у судзе такой гарантыі няма, што на практыцы прыводзіць да парушэння прынцыпу роўнасці дзвюх дзяржаўных моў і ставіць чалавека ў слабае становішча перад судовай сістэмай.



## Конрад Паўлік

**Польшча мяняе свайго пасла ў Беларусі. Конрад Паўлік пакідае Сінявокую, што выклікала шмат канспіралагічных версій.**

Конрад Паўлік быў прызначаны на пасаду пасла Рэспублікі Польшча ў Беларусі ў лютым 2016 года. Некаторыя падкрэслівалі, што рашэнне пра адкліканне пасла было прынята новым міністрам замежных спраў Польшчы Яцэкам Чапутовічам, які быў прызначаны замест Вітольда Вашчыкоўскага.

Дзейнасць Паўліка на пасадзе атрымала неадназначныя ацэнкі. Напрыклад, «Радыё Свабода» пісала, што «Конрада Паўліка нельга назваць лепшым польскім паслом, якога Варшава накіроўвала ў Мінск. Ён канфліктаваў з кіраўніцтвам Саюза палякаў у Беларусі, з «Белсатам». Для многіх незразумелымі былі яго спробы ўключыць TVP Polonia ў Беларусі, нават на ўзроўні рэгіёну, неабавязкова ў Мінску. За вялікае дасягненне ён выдаваў выкладанне польскай мовы ў некалькіх школах, называючы іх «польскімі класамі».

Але насамрэч сам Конрад Паўлік прасіў адклікаць яго з пасады амбасадара ў Мінску яшчэ міністра Вашчыкоўскага. І той задаволіў просьбу, якая ажыццявілася пры новым кіраўніку МЗС.

## Вікторыя Азаранка

**Суд Каліфорніі вынес рашэнне на карысць беларускай тэнісісткі ў справе па апецы над сынам Леа Аляксандрам, якога яна нарадзіла 19 снежня 2016 года.**



У ліпені 2017-га Азаранка разышлася з Білі Маккегам, бацькам яе сына. Суд Ленінскага раёна Мінска разглядзеў пытанні па справе аб апецы над сынам Азаранка і Маккега. Беларуская інстанцыя прызнала Азаранка асноўным апекуном (дзіця павінна знаходзіцца з маці і можа бачыцца з бацькам у парадку, вызначаным судом). Прадстаўнікі Маккега спрабавалі абскардзіць гэтае рашэнне ў Мінскім гарадскім судзе, але апеляцыйная скарга была адхіленая.

Маккег звярнуўся ў суд Лос-Анджэлеса наконт «крадзяжу дзіцяці» і прасіў амерыканскі суд не ўлічваць рашэнне Беларусі. На падставе зыску было прынятае рашэнне: на час разгляду справы аб апякунстве хлопчык не можа пакідаць горад. Каб не расставацца з сынам, Азаранка заставалася ў ЗША і прапусціла некалькі буйных турніраў.

Зараз каліфарнійскі суддзя пацвердзіў, што справа магла быць разгледжана ў Беларусі і мае законную сілу. На падачу апеляцыі ў бацькі дзіцяці ёсць тры тыдні.

На гэты момант беларуска займае 209-е месца ў рэйтынгу WTA.

а | Азбука паліталогіі

# Споведзь псеўдааналітыка

## «Наша праўда» ёсць вытворная ад аўтарытэту ўлады і дзяржавы



Сяргей НІКАЛЮК




Хто ж не любіць атрымліваць падарункі, а тым больш напярэдадні Новага года? Аўтар «Азбукі паліталогіі» — не выключэнне. На працягу многіх гадоў яму даводзілася адмаўляцца ад звання «сацыёлаг», якім яго перыядычна ганаравалі журналісты.

Усе мае знаёмыя сацыёлагі могуць пацвердзіць свой прафесійны статус адпаведным дыпломам, чаго не скажаш пра большасць палітолагаў. Беларускі палітолаг — гэта чалавек, здольны жангляваць 10–15 спецыфічнымі тэрмінамі, аналізуючы бягучыя грамадска-палітычныя падзеі. Выключэнні з гэтага правіла можна пералічыць на пальцах адной рукі.

Непаўнавартаснасць прафесійнай ідэнтычнасці спараджае пачуццё дыскамфорту. Але дапамога прыйшла, адкуль яе не чакалі: 13 снежня на II З'ездзе вучоных адзіны палітык (АП) знайшоў, дакладней сказаць, сканструяваў патрэбнае слова. Цытую: *«Сёння СМІ і інтэрнэт напоўненыя думкамі розных* ***псеўдааналітыкаў*** (вылучана. — С.Н.)».

### Паводле рэцэпту мітрапаліта Іларыёна

Прыстаўка «псеўда» паходзіць ад грэчаскага слова «ψευδής», што значыць «ілжывы». Хлусні ў гэтым свеце супрацьстаіць праўда. Такая вось «салодкая парачка», ці «дуальная апазіцыя», як сказалі б людзі адукаваныя.

«Праўда, — тлумачыць гісторык Аляксандр Ахіезер, — носіць вельмі нявызначаны, абстрактны характар у адрозненне ад хлусні (крыўды), якая звычайна ўвасобленая ў канкрэтным вобразе пэўнага носьбіта зла: буржуа, ворагаў народа, кааператараў і іншых».

Нявызначанасць праўды — не наш выпадак. У Беларусі ўменню адрозніваць праўду ад хлусні пачынаюць навучаць у дзіцячым садку, і ў гэтай высакароднай справе ўдзельнічаюць усе — **«і ўлада, і школа, і сям'я»**. Сумеснымі намаганнямі гэтай тройцы фармуюцца арыенціры, **«якія дапамогуць кожнаму стаць сапраўдным патрыётам і грамадзянінам»** (з выступу АП на пленарным пасяджэнні Рэспубліканскага педагагічнага савета 24 жніўня 2017 года).

«Праўда» да вядомай ступені падмяніла ў нас «права». У гэтым сэнсе Захад нам не ўказ. Бо «праўда», як пра гэта пісаў яшчэ ў XI стагоддзі ў «Слове пра закон і ласку» мітрапаліт Іларыён, ёсць і ісціна, і цнота, і справядлівасць, і закон. Гэта значыць, рэлігійна-маральны пачатак растварае ў нас пачатак юрыдычны.

Мае рацыю, тройчы мае рацыю АП, калі сцвярджае, што ў законах усё не прапішаш. Але мы ж не проста людзі — мы ж славяне! Таму калі не хапае таго ці іншага закона або нарматыўнага прававога акта, мы дзейнічаем згодна са справядлівасцю, якая пры гэтым выступае сінонімам праўды — нашай праўды. Арэал яе пражывання абмежаваны дзяржаўнай мяжой, а дакладней, тэрыторыяй, на якой грамадскае меркаванне фарміруецца беларускімі тэлеканаламі.

Але нягледзячы на намаганні прафесіяналаў «блакітнага экрану», сфарміраваць адзіную думку не атрымліваецца. Любое палітызаванае пытанне расколвае беларускае грамадства на «большасць» і «меншасць». Каб не спасылацца ў чарговы раз на сацыёлагаў НІСЭПД, якія атрымлівалі свае вынікі «на каленках», прапаную адкрыць манаграфію «Каштоўнасны свет сучаснага чалавека: Беларусь у праекце "Даследаванне еўрапейскіх каштоўнасцяў"», падрыхтаваную супрацоўнікамі Цэнтра сацыялагічных і палітычных даследаванняў БДУ.

На старонцы 20 прыведзены адказы на пытанне: «У якім кірунку развіваюцца падзеі ў Беларусі?» У 2008 годзе адказы размеркаваліся наступным чынам: у правільным — 42,5%, у няправільным — 17,9%, і не здолелі адказаць 39,6%.

Вось такая атрымалася «наша праўда». У 2008 годзе рэальныя грашовыя даходы беларусаў павялічыліся на 13%. Гэта быў пяты запар год іх двухзначнага росту. Тым не менш у правільнасці курсу «беларускай мадэлі» прапаганда не здолелі пераканаць нават палову беларусаў!

### Што хвалюе ветэранаў

Акрамя «і ўлады, і школы, і сям'і» адказнасць за фарміраванне «нашай праўды» АП усклаў на аўтарытэтных навукоўцаў-дзяржаўнікаў. Гэта гістарычная падзея была прымеркавана да II З'езду вучоных, на якім АП выступіў з дакладам.

Усё лагічна. «Наша праўда» ёсць вытворная ад аўтарытэту ўлады і дзяржавы. Па-за дзяржавай праўды няма і быць не можа. Для «чалавека савецкага» (базавы тып беларускага грамадства), які выйшаў са сталінскага шынялю, усё, што знаходзіцца па-за дзяржавай, праходзіць па катэгорыі «псеўда».

У адрозненне ад раздражняльнага піску псеўдааналітыкаў, голас аўтарытэтнага навукоўца-дзяржаўніка павінен гучаць выразна ды гучна. Такая ставіцца задача. Аднак да яе рэалізацыі яшчэ далёка. Цытую АП: «Скажыце, колькі з тых тысяч, якія я называў, нашых навукоўцаў-дзяржаўнікаў сёння ведаюць народ? Дзе яны, гэтыя навукоўцы-патрыёты, якія павінны абараніць дзяржаву ў інфармацыйнай вайне?»

Пытанні такога кшталту прынята называць «рытарычнымі», — г.зн. пытаннямі, адказваць на якія не трэба або не мае сэнсу праз іх крайнюю відавочнасць. Няздольнасць навукоўцаў-патрыётаў вывучаць народ сфармавалася не сёння. Уся іх энергія сыходзіла і працягвае сыходзіць у ідэалагічны свісток. «Не надта пісьменны, але надта партыйны», — казалі пра такіх у гады маёй маладосці.

Патрыятызм (ад грэчаскага «πατρίς» — «бацькаўшчына») — маральны і палітычны прынцып, зместам якога з'яўляецца любоў да радзімы і гатоўнасць ахвяраваць сваімі інтарэсамі дзеля яе. Але «наш патрыятызм», як і «наша праўда», адмысловы. Ён дзяржаўны. У яго аснове не любоў да радзімы, а любоў да дзяржавы і лаяльнасць у адносінах да ўлады. Пра гэта не прынята казаць адкрыта. Але тое, што ў звычайнага чалавека на розуме, то ў палітпрацаўніка на языку.

Нездарма ж амаль год я чакаў чарговага нумара часопіса Інстытута сацыялогіі НАН РБ. Здавалася б, фармат навуковага часопіса мае на ўвазе публікацыю выключна вынікаў сацыялагічных даследаванняў. Аднак і для артыкулаў, вартых савецкага «Даведніка прапагандыста», месца ў часопісе знайшлося.

**Нягледзячы на намаганні прафесіяналаў «блакітнага экрану», сфарміраваць адзіную думку не атрымліваецца. Любое палітызаванае пытанне расколвае грамадства на «большасць» і «меншасць»**

Падмацую гэту неардынарную выснову цытатай з артыкула «Фарміраванне патрыятычных каштоўнасцяў курсантаў Інстытута пагранічнай службы Рэспублікі Беларусь у сучасных умовах»: «Скажу шчыра, ветэранаў непакоіць, каб сённяшні афіцэр-памежнік не пераставаў быць дзяржаўным чалавекам... <...> Гэта хваляванне абумоўлена ўсведамленнем, што ва ўмовах масіраванай інфармацыйнай агрэсіі цяжка захоўваць пачуццё ***дзяржаўнага патрыятызму*** (вылучана. — С.Н.), асабліва ў маладых афіцэраў-памежнікаў».

### Патрыёты са знакам якасці

Так, няпроста ў сучасных умовах захоўваць пачуццё дзяржаўнага патрыятызму. Але мы не баімся цяжкасцяў. Да таго ж аўтарытэтныя навукоўцы-дзяржаўнікі ў нас яшчэ не зніклі. Налічваюцца іх, на жаль, не тысячы, а адзінкі, але ў навуцы і адзін у полі воін. Узяць, да прыкладу, дырэктара Інстытута сацыялогіі, прафесар Ігара Катлярова, чый рэдактарскі артыкул, безумоўна ўпрыгожыў апошні нумар «Сацыялагічнага альманаха».

Артыкул прысвечаны цывілізацыйнаму коду беларусаў. Таму пачну з вызначэння, дадзенага масцітым навукоўцам: «Цывілізацыйны код — гэта сістэма знакаў сацыякультурнага характару, што склалася гістарычна, пэўных камунікацый, дзякуючы якім перадаецца сацыяльны вопыт і сэнс жыцця ад пакалення да пакалення».

Нагадаю чытачам НЧ, што аўтар вызначэння — дырэктар інстытута сацыялогіі. Яму, як гаварыцца, і карты (лічбы) у рукі. Аднак уся канкрэтыка, заснаваная на шматлікіх сацыялагічных даследаваннях, абмежавалася галаслоўным сцвярджэннем пра тое, што «беларуская нацыянальная свядомасць ўласцівая ідэя патрыятызму як найвышэйшай каштоўнасці Радзімы, паважлівае стаўленне да роднага краю, клопат аб захаванні і памнажэнні яго багацця».

А як наконт нацыянальнай свядомасці нашых бліжэйшых суседзяў — палякаў, літоўцаў, латышоў, рускіх і ўкраінцаў? Сучасныя міжкраінавыя даследаванні дазваляюць правесці адпаведныя параўнанні. Але не прафесарская гэта справа. Значна прасцей разважаць пра традыцыі ўсенароднага подзвігу, на якіх «адбываецца сінтэз інтэлектуальных, эмацыйных, валявых сфер асобы з каштоўнасцямі і сэнсамі, што накіроўваюць чалавека на стваральнае асэнсаванне сацыяльна-палітычных рэалій».

Але тое, што ў Беларусі не дазволена аўтарытэтнаму навукоўцу-дзяржаўніку, дазволена псеўдааналітыку. У прыватнасці, ніхто не перашкаджае азнаёміцца з вынікамі сусветнага навукова-даследчага праекта (World Values Survey), накіраванага на вывучэнне каштоўнасцяў.

Карыстаюцца вынікамі WVS і супрацоўнікі Інстытута сацыялогіі, публікуючы ў адкрытым друку дадзеныя, якія ставяць пад сумнеў высновы прафесара аб высокай каштоўнасці беларусаў.

І — з дазволу чытачоў — я паспрабую скончыць першую ў 2018 годзе «Азбуку паліталогіі» на мажорнай, а для кагосьці і на мінорнай ноце: «Іншадумства — гэта вышэйшая форма патрыятызму».

Але да гэтай думкі, выказанай адным з аўтараў Дэкларацыі незалежнасці ЗША Томасам Джэферсанам больш за дзвесце гадоў таму, беларускім патрыётам-дзяржаўнікам дарасці, мяркуючы па ўсім, не наканавана.

# Юрась Меляшкевіч: «Спорт і палітыка — справа моцных»

Алесь КІРКЕВІЧ

**Юрась Меляшкевіч — намеснік старшыні Руху «За Свабоду», бізнесовец, які займаецца турызмам, і адзін з тых, хто вырашыў прыняць удзел у мясцовых выбарах. З Юрасём мы вырашылі пагутарыць пра эканоміку і сацыяльныя праблемы, суверэнітэт і незалежнасць, сям'ю і ролю спорту ў ягоным жыцці.**



Паводле Юрася, кожная выбарчая кампанія — гэта новы досвед. Штораз людзі настроеныя па-рознаму. У 2007-м, пасля «Плошчы» і кампаніі Мілінкевіча, адчуваўся запыт на перамены, надзея. Пасля сумных вынікаў Выбараў–2010 — расчараванне і страх. А як зараз?

### «Неабаронены чалавек не ў стане ствараць прадукты і паслугі»

— Падчас сёлетняй кампаніі, на дзіва, я назіраю цудоўную рэакцыю: людзі з задавальненнем ставяць подпісы. Ніхто не кажа, што ў краіне ўсё «ідзе па плану», а перамены не патрэбныя — не, такога няма! Людзі разумеюць, што альтэрнатыва патрэбная, як паветра! Трэба сыходзіць з сённяшняга курсу, пытанне: куды сыходзіць? Мы даем адказ: дэмакратызацыя, рэформы ў эканоміцы і сацыяльнай сферы, мадэрнізацыя грамадскага жыцця.

*— Але людзям, мабыць, найперш цікавыя заробкі, тарыфы ЖКГ, не?*

— Безумоўна, але дэмакратызацыя ў палітыцы і лібералізацыя ў эканоміцы — гэта жорстка звязаныя працэсы. Без палітычнай трансфармацыі не бывае зменаў у эканоміцы. Самы красамоўны прыклад — гэта сувязь настрояў любога камерсанта, які гатовы працаваць і нешта ствараць, са ступенню яго абароненасці праз суды. Калі адчування бяспекі няма, калі ён не верыць, што законнасць на ягоным баку, — не можа быць эканамічнага росту! Неабаронены чалавек не ў стане ствараць новыя якасныя прадукты ці паслугі.

### «Людзі ў інтэрнатах — на мяжы роспачы ды адчаю»

*— Ці распавядаюць вам людзі пра канкрэтныя сітуацыі са свайго жыцця, крыўды, асабістыя гісторыі?*

— Малінаўка, дзе я балатуюся, збольшага забудаваная звычайнымі панельнымі дамамі, але ёсць і інтэрнаты. Калі заходзіш туды, знікаюць ілюзіі пра Беларусь як сацыяльную дзяржаву. Людзі жывуць вельмі бедна, часам у адчаі ды роспачы. Адпрацаваўшы ўсё жыццё на дзяржаву, яны не маюць магчымасці на пенсіі мець сваю кватэру, дзе сустрэнуць старасць. Тое жытло, што давала дзяржава, — часовае, «ведамаснае» — адбіраецца пасля заканчэння кантракту... У людзей няма ўжо магчымасці эфектыўна працаваць, каб зарабіць нават на здымную кватэру. Куды ім ісці?

Я кажу зараз пра інтэрнат Мінтранса. Самае горкае ў тым, што на гэтай акрузе дзве кадэнцыі адбыў дэпутат, які сам быў прадстаўніком Мінтранса. Ён пальцам аб палец не ўдарыў, каб абараніць інтарэсы сваіх выбарцаў, сваіх калегаў, з якімі працуе ў адной арганізацыі! Гэта толькі падкрэслівае цынізм і мярзотнасць падобных «абранцаў». Прозвішча вядомае, але называць яго не лічу вартым зараз — пра яго мы ўзгадаем у іншых месцах.

*— Хто вінаваты?*

— Адказнасць на тых, хто прымае рашэнні. З аднаго боку, адказнасць на людзях, якія самі абіраюць такую ўладу ці наўпрост не цікавяцца, хто ў іх улада: жывуць па прынцыпе «мы палітыку не чапаем». Далей — адказнасць улады. Якім бы спосабам тыя людзі, што стаяць «у руля», не атрымалі свае месцы, яны абавязаныя клапаціцца пра годнае жыццё грамадзянаў.

Гэта таксама адказнасць урада, які прымае рашэнні пра парадак прыватызацыі службовага жытла. Гарадскія ўлады адказныя за рашэнні пра спосабы карыстання зямлёй і маёмасцю ў давераным ім горадзе, на тэрыторыі той жа Малінаўкі. Я бачу і свой узровень адказнасці за ўсё, што адбываецца на маім раёне, таму — іду ў дэпутаты.

*— Што вы можаце даць людзям?*

— Прыярытэтна для мяне было б разабрацца з трагічнай сітуацыяй, што склалася ў інтэрнаце Мінтранса. Бо гэта лёсы людзей, якія апынуліся ў бядзе, гэта дзясяткі людзей! Другое — пытанне ўпарадкавання тэрыторыі раёна, дзе мы гадамі дамагаемся пераўтварэння пляцоўкі з пустыра ў цэнтры раёна на сквер з дрэўцамі ды лавачкамі, дзе мамы маглі б гуляць з дзецьмі, адпачываць, бавіць час. Гэта дзве канкрэтныя сітуацыі, за якія я вазьмуся ў выпадку перамогі. Мы з камандай збіраем прапановы ад жыхароў раёна, якіх не чулі і не чуюць сучасныя дэпутаты — будзем прыслухоўвацца і працаваць.

### «На акрузе сустракаю землякоў-чарнобыльцаў»

*— Ці пазнаюць вас у Малінаўцы?*

— Былі выпадкі, якія мяне добра натхнілі цягам гэтай кампаніі. Адна жанчына мяне нават не стала запытвацца, як завуць, якая праграма, але кажа: «Я вас ведаю, вы — Юры Меляшкевіч, а ваша бабуля вучыла мяне ў школе. Дзе падпісаць?..» Сапраўды, я балатуюся ў раёне, дзе жыве вялікая колькасць перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны. Сустрэў, такім чынам, зямлячку, якая прыехала з Церахоўкі на Слаўгарадчыне.

*— Вы ж таксама «чарнобылец»?*

— Я нарадзіўся ў Слаўгарадзе. Мая мама — ураджэнка вёскі Цераховка Слаўгарадскага раёна. Мае бацькі пазнаёміліся ў Горыцкай сельскагаспадарчай акадэміі. Маці — выкладчыца. Бацька — чыноўнік, галоўны аграном раёна. Бліжэй да перабудовы бацька кінуў тую працу: ніколі не быў партыйным, яму не падабалася сістэма, дзе партыйная корачка значыла болей за кваліфікацыю. Ён сышоў у камерцыйную дзейнасць, заснаваў кааператыў. У 1993-м, праз сем гадоў пасля Чарнобыля, бацькі скарысталіся праграмай для перасяленцаў ды выехалі ў Мінск. З таго часу я і жыву ў Малінаўцы.

*— Ці сутыкаецеся вы з негатывам, маўляў, «апазіцыя», БНФ?*

— Вельмі рэдка. Быў надзвычай цікавы выпадак: чалавек раскрытыкаваў БНФ, апазіцыю, Еўропу, а пасля... сталася неймавернае. Спачатку выйшаў і падпісаўся ягоны сын, пасля — жонка, у выніку... ён сам паставіў подпіс! Чалавек, відаць, слухаючы нашу размову, зрабіў нейкія высновы. Гэта было вельмі прыемна!

### «Трэба прапаноўваць прадукт, а не голыя лозунгі»

*— Вы працуеце ў турыстычным бізнесе, як так сталася?*

— За гэты я ўдзячны пану Антону Астаповічу, старшыні «Таварыства аховы помнікаў», чалавеку, які яшчэ ў часы майго студэнцтва захапіў мяне расповедамі пра гісторыю і памятныя мясціны Беларусі. Упершыню я адправіўся з ім на экскурсію годзе ў 2003-м. Праз шмат год я арганізоўваў вандроўку для сябroў Руху «За Свабоду» і звярнуўся да Астаповіча па дапамогу — усё атрымалася цудоўна!

Так я зразумеў, што з гэтага можна зрабіць бізнес. Зараз я дырэктар турыстычнай агенцыі «Куфэрак падарожжаў», Астаповіч — намеснік. Ён займаецца метадычнай працай, піша сцэнары, распавядае на месцы як лектар, я — займаюся арганізацыйнымі пытаннямі.

*— Атрымліваецца, гэта і бізнес, і папулярызацыя роднай гісторыі?*

— Так, гэта цудоўная магчымасць спалучыць веды пра нашу краіну, умацаваць гістарычную памяць і зарабіць грошы. Калі казаць шырэй пра папулярызацыю гісторыі і патрыятызм, то нам трэба шукаць новыя формы, быць творчымі, жывымі, прапаноўваць людзям нейкі прадукт ці паслугу, а не голыя, хай і прыгожыя, лозунгі. Трэба быць гнуткім, умець змяняцца, але захоўваць свой стрыжань — гэта запатрабаванне часу. Для мяне Беларусь, наша гісторыя, разуменне сябе як часткі Еўрапейскай цывілізацыі — гэта нязменныя рэйкі.

### «Будзе давер — абаронім і суверэнітэт, і межы»

*— То бок, у 2006-м ці 2008-м былі іншыя запатрабаванні часу?*

— Так, безумоўна. Змянілася адчуванне бяспекі ў рэгіёне. Найперш я кажу пра той канфлікт, які быў развязаны ва Украіне. Для нас гэта мае стаць урокам, а нашы дзеянні, як палітыкаў і грамадскіх актывістаў, не могуць быць безадказнымі ды эмацыйнымі — мы не маем на гэта права. У нашым грамадстве ёсць розныя пазіцыі і думкі, усё гэта трэба ўлічваць, каб захаваць еднасць. На гэтым этапе нашай гісторыі выбудоўванне даверу — гэта вялікая каштоўнасць. Толькі ўзаемны давер дае еднасць.

*— Што рабіць для гэтага?*

— Мы павінны гуртавацца вакол таго, што нас, беларусаў, аб'ядноўвае, будаваць масты, а не сцены. Пытанні незалежнасці, суверэнітэту, тэрытарыяльнай цэласнасці — гэта фактары аб'яднання. Але і суверэнітэт, і дзяржаўнасць маюць сэнс толькі тады, калі нацыянальны праект паспяховы. Простымі словамі — калі тут утульна і хочацца жыць кожнаму. Інакш, калі мы маем і суверэнітэт, і абароненыя межы, але ствараем дзяржаву-монстра, дзе асобны чалавек нічога не варты, не мае правоў, не можа зарабіць сабе на жыццё — каму тое трэба?.. Аб'яднаць народ вакол такога праекту немагчыма.

Так, мы патрыёты, але нашы патрыятычныя заклікі людзі наўпрост не пачуюць, калі жыць у роднай Беларусі для іх стане невыносна. Таму вельмі важна, каб ідэя незалежнасці служыла будаўніцтву такой Беларусі, у якой кожнаму хацелася б жыць — мадэрновай, сучаснай, тэхналагічнай, заможнай і камфортнай. Мы маем дакладна бачыць гэтую дзяржаву, даваць дзяржаўным органам — тады абаронім і суверэнітэт, і межы, і незалежнасць.

*— Ці падтрымлівае вас сям'я?*

— У бізнесе, канешне, падтрымлівае — гэта ж спосаб існавання сям'і. Датычна палітыкі: я шмат гадоў з'яўляюся сябрам БНФ, Руху «За Свабоду», працаваў у камандзе Мілінкевіча — усё гэта тычылася ў рознай ступені і родных, яны дапамагалі як маглі. Мой бацька сябар Фронту яшчэ з часу яго заснавання, таму дапамагаў і ў зборы подпісаў, і ў агітацыі. Але сёння бацькі ўжо пенсійнага ўзросту, таму — спачуваюць, цікавяцца. Тое самае з жонкай — падтрымлівае маральна.

*— А хто ваша жонка?*

— Ганна — псіхатэрапеўт. А сустрэліся мы некалі ў тэхналагічным універсітэце, яна вучылася на біятэхнолага, пасля змяніла накірунак. У нас двое дзяцей — Станіслаў і Яніна. Стасік зараз у трэцім класе, Яня — у першым.

*— Стась ужо мае нейкія цікавасці?*

— Сын хадзіў на гімнастыку, спрабаваў іншыя віды спорту. Зараз мы спыніліся на вольнай барацьбе. Справа ў тым, што я сем гадоў некалі займаўся вольнай барацьбой. Пачаў яшчэ ў спортзале школы №205 на Малінаўцы. У мяне быў цудоўны трэнер, які выхаваў прызёраў еўрапейскага ўзроўню. Я дасягнуў першага дарослага разраду па вольнай барацьбе — ганаруся гэтым! Спадзяюся, Стась зачэпіцца за гэта, а спорт, у далейшым, дапаможа яму зачапіцца ў жыцці.

*— А вам дапамог?*

— Я зразумеў, што барацьба — гэта высакародная справа, ёсць правілы, ёсць стыль. Трэба працаваць над сабой кожную хвіліну, практыкавацца, напрацоўваць тэхнічныя навыкі. Агулам — гэта цудоўны спосаб падрасці і ўнутрана, і фізічна. Спорт, як і палітыка, у маім разуменні, — гэта справа моцных і валявых людзей. Таму мне гэта блізка.



Злева направа: міністра абароны Анатоль Кастэнка, Юрый Захаранка і шэф КДБ Уладзімір Ягораў у Мачулішчах у ліпені 1994 года

# Галгофа Юрыя Захаранкі

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Экс-міністра ўнутраных спраў дасюль з павагай і цеплынёй узгадваюць сталыя супрацоўнікі міліцыі. Юрый Захаранка марыў пра прававую дзяржаву і шмат што для гэтага рабіў. Яго загадкавае знікненне з'яўляецца адной з трагічных старонак найноўшай гісторыі Беларусі.**

## Антыкарупцыянер

Імя Юрыя Захаранкі ўпершыню прагучала на ўсю краіну 14 снежня 1993 года ў выніковым дакладзе дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі 12 склікання, старшыні часовай камісіі парламента па вывучэнні дзейнасці камерцыйных структур пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады і кіравання Аляксандра Лукашэнкі. Будучы беларускі кіраўнік назваў Захаранку (разам з супрацоўнікамі МУС Мікалаем Карпіевічам, Юрыем Малумавым і Міхаілам Сазонавым) першым сярод тых, хто дапамагаў працы камісіі. Захаранка на той момант узначальваў Следчы камітэт МУС. Камітэт быў новым органам, створаным у тым жа 1993 годзе. Прызначэнне кіраўніком такой структуры Захаранкі, якому споўніўся 41 год, сведчыла пра безумоўны прафесіяналізм апошняга. Пры дапамозе Захаранкі Лукашэнка меў магчымасць атрымліваць эксклюзіўную інфармацыю, якая была закладзена ў аснову даклада, што зрабіў моцны грамадскі рэзананс і павысіў папулярнасць будучага кіраўніка краіны.

Насуперак распаўсюджанай легендзе, Захаранка публічна не падтрымліваў Лукашэнку падчас прэзідэнцкіх выбараў 1994 года. Такія заявы маглі б мець сур'ёзныя наступствы нават пры адноснa добразычлівым прэм'ер-міністры Вячаславе Кебічы. Вядома, што праблемы на працы мелі Карпіевіч, Малумаў і Сазонаў, якія атрымалі дысцыплінарныя вымовы за тое, што працягвалі працаваць у камісіі Лукашэнкі, нягледзячы на загады тагачаснага міністра ўнутраных спраў Уладзіміра Данько. Ва ўсялякім разе, публічных заяў Захаранкі ў падтрымку Лукашэнкі летам 1994 года не заўважана.

Калі Лукашэнка стаў прэзідэнтам, то без ваганняў прапанаваў Захаранку ўзначаліць МУС.

## На чале МУС

Паводле тагачаснай Канстытуцыі, кандыдатура на пасаду міністра ўнутраных спраў зацвярджалася са згоды Вярхоўнага Савета. На наступны дзень (21 ліпеня 1994 года) пасля афіцыйнай інаўгурацыі Лукашэнка з характэрным для яго імпэтам прадставіў народным абраннікам свайго вылучэнца: «Человек честный, порядочный, я через своих людей дошел до той деревеньки, где он родился, молодой способный человек». Дэпутат Уладзімір Станкевіч, які раз-пораз спрачаўся з Лукашэнкам падчас парламенцкіх сесій, запытаў, чаму нельга пакінуць на пасадзе Уладзіміра Данько. Адказ Лукашэнкі быў такім: «Захаренко профессиональнее, я обещаю: если я проживу пять лет, Юрий Николаевич будет работать со мной пять лет».

У кароткім выступе перад дэпутатамі Юрый Захаранка канстатаваў «развал силовых структур» і заявіў, што «на переднем крае борьбы с преступностью находится только 20% личного состава органов внутренних дел». З 297 дэпутатаў, якія ўзялі ўдзел у галасаванні, 234 падтрымалі Захаранку. Супраць не выказаўся ніхто.

## З прафесійным імпэтам

Новы міністр актыўна ўзяўся за працу. Пра гэта сведчаць унікальныя архіўныя матэрыялы, сярод якіх ёсць дакладныя запіскі Захаранкі на імя старшыні Кабінета міністраў Міхаіла Чыгіра.

Стыль запісак быў аднолькавы. Міністр пералічваў, што зрабілі праваахоўныя органы за пэўны перыяд. У найбольш поўнай справаздачы ад 14 ліпеня 1995 года даецца карціна дзейнасці МУС за шэсць месяцаў. Як пісаў Захаранка, было раскрыта 11,5 тыс. злачынстваў у сферы эканомікі, што на 1,8 тыс. больш чым летась. Да крымінальнай адказнасці былі прыцягнуты 6,7 тыс. асоб. Выяўленыя 442 выпадкі атрымання хабару. У гэтай справаздачы Захаранка адзначыў новы від злачыннасці — кампутарны, калі з разліковага рахунку Пінскага філіяла «Магнабанка» імкнуліся скрасці 1 мільярд 700 мільёнаў рублёў.

Захаранку непакоіла крытычная перапоўненасць месцаў пазбаўлення волі: калоній, турмаў, следчых ізалятараў, папраўча-працоўных установаў, дзе пры ліміце на 40520 чалавек знаходзіліся больш за 50000 затрыманых і асуджаных. У дакладной запісцы ад 23 лютага 1995 года Захаранка хадайнічаў аб выдаткаванні 37 мільярдаў рублёў з рэспубліканскага бюджэту для перапрафілявання ў месцы пазбаўлення волі былых ваенных гарадкоў.

Захаранка закранаў і іншае. Напрыклад, 6 студзеня 1995 года кіраўнік МУС звярнуўся з просьбай пра 740 тысяч долараў ЗША для ажыццяўлення пашпартызацыі насельніцтва, 16 студзеня 1995 года — аб выдзяленні дадатковай колькасці 330 адзінак часовага і 77 адзінак пастаяннага складу для навучальных установаў МУС на 1995–1996 гады і, адпаведна, грашовых сродкаў на іх утрыманне, 13 лютага 1995 года — аб бязвыплатнай перадачы складоў гаруча-змазачных матэрыялаў у Быхаве і ў Баранавічах, 27 лютага 1995 года — аб уключэнні шматтыражнай газеты Упраўлення па папраўчых справах МУС Рэспублікі Беларусь «Трудовой путь» у пералік выданняў, фінансаванне якіх ажыццяўляецца за кошт дзяржавы, 20 мая 1995 года — пра бязвыплатную перадачу некалькіх канфіскаваных аўтамабіляў «ВАЗ» на патрэбы УУС Гомельскага аблвыканкама.

Сваё бачанне рэформы беларускай міліцыі Юрый Захаранка агучваў у СМІ. Адно з самых знакавых інтэрв'ю было апублікавана ў «Народнай газеце» 5 ліпеня 1995 года. Чытачы даведаліся пра змены структуры МУС, захады па барацьбе з карупцыяй і злачыннасцю, наркотыкамі. Усе аргументы Захаранка падмацоўваў лічбамі, удала разбаўляючы іх алегарычнымі параўнаннямі (накшталт «бешеных псов» у адносінах да злачынных аўтарытэтаў і інш.). Сімпатыю чытачоў выклікала і адсутнасць у Захаранкі асабістай аховы, спецаўтамабіля і гэтак далей.

У гэтым інтэрв'ю міністр меў смеласць заявіць пра маральную дэградацыю краіны (128 тысяч алкаголікаў, 54 тысяч псіхічна хворых, 1,5 тысячы прастытутак, 1,5 тысячы асобаў, пазбаўленых бацькоўскіх правоў, 109 тысяч беспрацоўных, кожны пяты злачынца — жанчына і гэтак далей). Міністр казаў пра слабую матэрыяльную базу МУС («скоро будем создавать конную милицию», «в милиции — безоружные бойцы, как в 1941 году»). Усе пазітыўныя змены, казаў ён, былі ажыццёўлены «без единой копейки из государственного бюджета». Больш таго, ён перасцярог тых, хто «хочет порулить МВД», і запэўніў, што без міністэрства палітычная сістэма «рухнет».

Дарэчы, у размове Захаранка не кінуўся расхвальваць Лукашэнку, а толькі выказаў яму стрыманую падзяку за падтрымку. Калі журналіст спытаў, ці не шкадуе Захаранка пра СССР, то міністр кінуў фразу пра «мощное государство», аднак настальгію па Саюзе не прызнаў (Лукашэнка ў тыя часы страшэнна настальгаваў па СССР). І, урэшце, Захаранка сказаў, што для яго «единственная и не проходящая любовь — моя Беларусь». Такія фразы лічыліся ў атачэнні Лукашэнкі ледзь не палітычным выклікам.

У вочы кідаецца тое, што за час кіраўніцтва МУС Захаранка ўсяляк дыстанцыяваўся ад палітыкі. У яго выступах адсутнічаюць выпады супраць беларускай мовы, дзяржаўнай сімволікі, палітычных апанентаў.

## Непапулярнасць

Ведамства Захаранкі вымушана было рэагаваць на мітынгі і шэсці (дзень беларускай вайсковай славы 8 верасня 1994 года, студэнцкі марш 14 кастрычніка 1994 года «За хлеб і малако», студэнцкая акцыя вакол прэзідэнцкай адміністрацыі супраць рэферэндуму 14 мая 1995 года, забастоўка работнікаў сталічнага метрапалітэна ў жніўні 1995 года), аднак затрыманні не былі масавымі, а разгоны — брутальнымі.

Гісторыя ўратавала Захаранку ад датычнасці да збіцця таемнымі вайсковымі падраздзяленнямі галадаючых дэпутатаў Вярхоўнага Савета ў ноч з 11 на 12 красавіка 1995 года. Захаранка ляжаў тады ў бальніцы на аперацыі, таму да гвалтоўнай «эвакуацыі» народных абраннікаў дачынення не меў. Калі б ён быў уцягнуты ў тую авантуру, на яго палітычнай рэпутацыі можна было б ставіць крыж.

Асобу Захаранкі заўважалі і апаненты. Пры абмеркаванні прапанаваных Лукашэнкам кандыдатаў на пасады міністраў 21 ліпеня 1994 года член дэпутацкай групы БНФ Сяргей Антончык не задаў Захаранку ні аднаго пытання, хаця раскрытыкаваў многіх вылучэнцаў Лукашэнкі: Дзмітрыя Булахава (прэтэндаваў на пасаду старшыні Канстытуцыйнага Суда) — за пералёты ў Егіпет за дзяржаўны кошт, Анатоля Кастэнку (кандыдата на пасаду міністра абароны) — за незаконны продаж і раскраданне вайсковай маёмасці ў бытнасць камандавання ім Беларускай ваеннай акругай. Імя Захаранкі адсутнічала ў знакамітым дакладзе Антончыка аб карупцыі ў вышэйшых эшалонах улады. Спакойна ставілася да міністра газета «Свабода», якая з усіх СМІ найбольш смела пісала пра паплечнікаў Лукашэнкі.

## Невырашальныя супярэчнасці

Цяжка сказаць, калі паміж Лукашэнкам і Захаранкам упершыню прабегла чорная котка. Аднак ясна тое, што ў падзенні міністра адыграла ролю сукупнасць фактараў, самыя важныя з якіх тычацца барацьбы за ўплыў на першую асобу ў краіне, за фінансавыя патокі.

У шэрагу постсавецкіх краінаў першыя ролі сталі адыгрываць не традыцыйныя міністэрствы і ведамствы, а новыя сілавыя і кіраўніча-гаспадарчыя структуры, якія спачатку не былі нават прапісаныя ў Канстытуцыі. З прыходам Лукашэнкі ў Беларусі ўплывовымі сталі прэзідэнцкая адміністрацыя, Упраўленне справамі прэзідэнта, Савет Бяспекі, Служба бяспекі прэзідэнта, Служба кантролю. З пачаткам кіравання Лукашэнкі на яго маглі аказваць уплыў толькі два чалавекі: дзяржсакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман і кіраўнік Упраўлення справамі прэзідэнта Іван Ціцянкоў.

Менавіта гэтыя людзі, карыстаючыся становішчам, пачалі забіраць для сваіх ведамстваў грошы і матэрыяльную базу. Напрыклад, 28 снежня 1994 года Шэйман звярнуўся да Чыгіра з просьбай выдаткаваць для Дзяржаўнага цэнтра бяспекі інфармацыі пры Савеце бяспекі на 1995 год аж 3 мільярды 580 мільёнаў рублёў. Чыгір даручыў разгледзіць гэтае пытанне тагачаснаму міністру фінансаў Паўлу Дзіку, які згадзіўся даць толькі 2 мільярды рублёў. Нават няпоўная сума была агромністай для адной структуры.

Для параўнання: калі шэраг дэпутатаў звярнуўся да міністра фінансаў з пытаннем

аб неабходнасці пабудовы ў Бабруйску для работнікаў мясцовай міліцыі жылога дома на 40 кватэр, Дзік адмовіў. На дакладную запіску Захаранкі аб перадачы канфіскаваных аўтамабіляў «ВАЗ» на патрэбы УУС Гомельскага аблвыканкама Мінфін адказаў, што аўтамабілі ўжо перададзеныя Упраўленню справамі прэзідэнта. Не была задаволена просьба Захаранкі пра выдаткаванне 37 мільярдаў рублёў для вырашэння пытанняў з абсталяваннем месцаў пазбаўленні волі на базе былых ваенных гарадкоў. Адказ Дзіка («вопрос дополнительного выделения ассигнований может быть рассмотрен при условии улучшения финансового положения республики и наличия в доходной части бюджета необходимых источников») выглядаў здзекліва. І зусім анекдатычна склалася сітуацыя з «Трудововым путём»: Мінфін адмовіўся ўключаць газету ў пералік выданняў, фінансаванне якіх ажыццяўляецца за кошт дзяржавы.

Сітуацыя выклікала справядлівую крыўду. Па-першае, Захаранка слушна лічыў, што ў першую чаргу сродкі павінны выдаткоўвацца МУС, а не нейкім таемным структурам, якія, дзякуючы недзяржаўным СМІ, часта траплялі ў скандалы.

Па-другое, Захаранка быў упэўнены, што і да яго асабіста павінна быць павага. Да прыходу на пасаду міністра службовая кар'ера Захаранкі была суцэльным узлётам. Пачынаючы ў далёкім 1977 годзе працу следчым у Светлагорску, Захаранка ўстойліва падымаўся па службовай лесвіцы — і ў 41 год стаў начальнікам важнай структуры МУС. Такім кар'ерным ростам пахваліцца не маглі ні Лукашэнка, ні Ціцянкоў, ні Шэйман. Невядома, які б была палітычная будучыня ў Лукашэнкі без перамогі на прэзідэнцкіх выбарах, а Шэйман і Ціцянкоў увогуле атрымалі ўсё, дзякуючы свайму патрону.

Становішча Захаранкі рэзка пахіснулася ў жніўні 1995-га пасля адмовы Ціцянкову накіраваць на будаўнічыя работы салдат унутраных войскаў. У адпаведным пісьмовым звароце, які суправаджаўся ўжо крылатай фразай «родители нам отдали своих детей служить, а не батрачить», да свайго намесніка, камандуючага ўнутранымі войскамі Валянціна Агальца, Захаранка раіў апошняму кіравацца літарай закона і тлумачыў свайму падначаленаму, што складаная аператыўная абстаноўка не дазваляе выкарыстанне салдат унутраных войскаў у іншых мэтах.

## З фаварытаў — у апазіцыю

Чарга прынцыповага міністра надышла восенню 1995 года. Цкаванне Захаранкі можна прасачыць літаральна па днях на аснове дакументаў з кнігі «Говорит Юрий Захаренко». Спачатку — раздражнёны ліст Лукашэнкі з патрабаваннем прадставіць доказы карупцыі ў яго атачэнні. Затым — сакрэтная дакладная запіска Захаранкі, а потым — зноў раз'юшаны адказ Лукашэнкі.

10 кастрычніка 1995 года кіраўнік краіны прыняў аж тры ўказы наконт МУС: аб звальненні Ізотава і Рухлядзева, а таксама аб прызначэнні Агальца першым намеснікам міністра. Захаранка рэзка адказаў на такія кадравыя перастаноўкі — і 16 кастрычніка 1995 года сам быў вызвалены ад пасады. А прызначэнне ў гэты ж дзень выконваючым абавязкі міністра Шэймана сведчыла пра канчатковую перамогу апошняга.

Захаранка не стаў маўчаць: распачаў маштабную крытыку Лукашэнкі і паспрабаваў узняць рэванш шляхам абрання дэпутатам у Вярхоўны Савет 13 склікання. У сваю чаргу, Лукашэнка пачаў абвінавачваць Захаранку ва ўсіх смяротных грахах (на закрытым пасяджэнні Вярхоўнага Савета 12 студзеня 1996 года кіраўнік дзяржавы інкрымінаваў эксміністру ўдзел «в коллективном заговоре» супраць улады). Затым пасыпаліся абвінавачванні ў будоўлі катэджа пад Заслаўем, стратным набыцці замежных аўтамабіляў для міліцыі і гэтак далей.

Адносіны паміж эксміністрам і Лукашэнкам абвастраліся. Захаранка пачаў крытыкаваць не толькі палітыку, але і асабістыя якасці кіраўніка («аналитическое мышление на нуле», «панически труслив», «патологически мстителен»), а таксама патрабаваць прыцягнення Лукашэнкі да крымінальнай адказнасці, у тым ліку і за падзеі ў ноч з 11 на 12 красавіка 1995 года, за жорсткія дзеянні міліцыі ў адносінах да мірных дэманстрантаў 26 красавіка 1996 года.

Дамагчыся справядлівасці Захаранка паспрабаваў у Вярхоўным Савеце 13 склікання, дакладней, на пасяджэнні парламенцкай сесіі 4 мая 1996 года.

Лукашэнку была патрэбна згода дэпутатаў на прызначэнне Агальца на пасаду кіраўніка МУС. Выступаючы перад народнымі абраннікамі, Лукашэнка казаў наступнае: «Не справился с должностью Юрий Захаренко. При назначении, казалось, учли все. Достаточно зрелый, энергичный человек, хороший специалист, однако за время пребывания в должности существенных сдвигов не произошло. В республике снизилась раскрываемость преступлений. Не отличался он и личной исполнительской дисциплиной, допускал нецелевое использование финансовых средств в значительных размерах».

Захаранку ўдалося немагчымае. Большасць дэпутатаў пагадзілася выслухаць апальнага сілавіка. Захаранка адмёў усе абвінавачванні ў неэфектыўным расходаванні сродкаў і сам папракнуў кіраўніцтва краіны, што яно набывае «дорогие летательные аппараты». Экс-міністр запэўніваў, што рэформа міліцыі дала плён, а беларускае МУС — «самый малочисленный аппарат в СНГ и Западной Европе». Ён папярэджваў, што яго адстаўка — «не просто инцидент, а часть государственной политики». Колькі слоў Захаранка сказаў пра злачыннасць і карупцыю: «При разработке чеченской группировки был установлен факт её связи с Шейманом. Встречи проходили в Крылово (вёска ў Мінскім раёне. — аўт.), где преступный авторитет занимал одну из дач, пытаясь расширить круг правительственных знакомств». Захаранка, звяртаючыся да Лукашэнкі, заклікаў таго «разогнать всю эту свору», «иначе она разгонит вас».

У доўгім адказе Захаранку Лукашэнка, вельмі абураны «летательным аппаратом», фактычна стаў весці пасяджэнне сесіі і, умела маніпулюючы яго ходам, дамогся згоды на адстаўку Захаранкі. У аналы найноўшай гісторыі Беларусі ўвайшоў прыкры ўчынак старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага, які ў час выступу Захаранкі звярнуўся да Лукашэнкі.

Са свайго боку Захаранка крытычна выказваўся пра парламент, але адназначна выступіў супраць яго ліквідацыі. Захаранка, бадай, быў самым жорсткім крытыкам рэферэндуму 1996 года, заяўляючы, што гэта — дзяржаўны пераварот, які вядзе да фашызму.

Больш таго, Захаранка вылучыў кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Савета 13 склікання (дадатковыя выбары ў 62 акругах па прычыне іх правалу ў 1995 годзе павінны былі адбыцца ў адзін дзень з рэферэндумам — 24 лістапада 1996 года) і ў Чыгуначнай выбарчай акрузе Кастрычніцкага раёна Мінска выйшаў у другі тур.

## Радыкальны апазіцыянер

Пасля рэферэндуму 1996-га Захаранка стаў актыўным сябрам апазіцыі, зблізіўся з Генадзем Карпенкам і Віктарам Ганчаром. Быў адным з ініцыятараў стварэння ў студзені 1997 года спецыяльнай камісіі «по правовой оценке нарушений президентом Республики Беларусь Лукашенко А.Г. Конституции и законов Республики Беларусь» на чале з Ганчаром. З пачатку 1997 года стаў актыўным чальцом «ценявога ўрада» — Нацыянальнага эканамічнага савета. З пачатку 1998 года Захаранка — старшыня камітэта па нацыянальнай бяспецы Нацыянальнага выканаўчага камітэта (НВК) на чале з Карпенкам. У асабістым фондзе Карпенкі ў Нацыянальным архіве захоўваецца важны дакумент НВК — «План первоочередных законодательных актов, необходимых для реформирования белорусской государственности и экономики страны с целью создания свободного демократического гражданского общества с эффективной экономикой, способной резко повысить благосостояние народа». Камітэт Захаранкі абавязаўся на працягу 1998 года падрыхтаваць праект Канцэпцыі нацыянальнай бяспекі, праект закона аб люстрацыі і шэраг іншых законапраектаў.

Варта адзначыць, што Захаранка фактычна пагадзіўся быць «чалавекам другога плана», на корані перарываючы чуткі наконт асабістых прэзідэнцкіх амбіцый і заклікаючы да кансенсусу ўсе палітычныя сілы.

На адпаведнае непасрэднае пытанне ў інтэрв'ю «Народнай волі» Захаранка адказаў, што міліцыянер павінен змагацца са злачыннасцю, а на чале краіны мусіць быць чалавек з багатым досведам кіраўніцтва. Каго быў гатовы падтрымаць Захаранка ў якасці новага лідара краіны? Першапачаткова, безумоўна, Карпенку. У асабістым архіве апошняга маецца «Заявление о поддержке Г.Д. Карпенко как единой кандидатуры от демократических сил Беларуси на предстоящих выборах Президента Республики Беларусь», датаванае 1998 годам і падпісанае сярод іншых «генерал-маёрам» Захаранкам.

Сам Захаранка заняўся стварэннем Саюза афіцэраў з ветэранаў (якія падзялялі дэмакратычныя каштоўнасці) розных сілавых ведамстваў. Такі саюз, на думку Чыгіра, змог бы стаць рэальнай апазіцыйнай сілай.

Пасля загадкавай смерці Карпенкі ў пачатку красавіка 1999 года Захаранка без ваганняў падтрымаў кандыдатуру Міхаіла Чыгіра на ўдзел у так званых «альтэрнатыўных» прэзідэнцкіх выбарах, якія, паводле пастановы ЦВК на чале з Ганчаром, павінны былі прайсці з 6 па 10 мая 1999 года. Захаранка разлічваў, што гэтая кампанія стане пачаткам дэмантажу ўлады Лукашэнкі. У апошніх інтэрв'ю Захаранка глядзеў на сітуацыю даволі аптымістычна, прадракаў беларускаму кіраўніку палітычны Нюрнберг і лёс румынскага дыктатара Чаўшэску. Апальны генерал недаацаніў палітычную і сілавую моц рэжыму, гатоўнасць Лукашэнкі да рашучых дзеянняў, падтрымку Расіі, ідэалізаваў пратэстны патэнцыял насельніцтва. Гэтая памылка дорага каштавала Юрыю Захаранку 7 мая 1999 года.

## Феномен Юрыя Захаранкі

Феномен Юрыя Захаранкі выклікае пытанні: наколькі высокапастаўленая службовая асоба, выціснутая і пакрыўджаная ўладай, здольная не толькі абараняць свой гонар і годнасць, але і справядліва гэтую ўладу крытыкаваць, і наколькі моцны парог цярпення, каб праглынуць горыч прыніжэння і чакаць ад улады міласці?

Калі ўзяць касту ваенных, то, на жаль, у гісторыі Беларусі за амаль 25-гадовае кіраванне Лукашэнкі толькі лічаныя адзінкі знайшлі ў сабе моц паставіць уласныя погляды вышэй за пасады і матэрыяльны дабрабыт. Большасць маўчала. Дастаткова ўзгадаць генералаў-сілавікоў Валерыя Ізотава, Сяргея Рухлядзева, Уладзіміра Данько, Станіслава Князева, Леаніда Мальцава... Па жаданні Лукашэнкі, які дзейнічаў у адносінах да сілавікоў па прынцыпе «падзяляць і ўладарыць», яны пазбавіліся пасадаў, а некаторыя — і званняў, аднак вытрымалі «тэст па палітычную лаяльнасць» і зноў вярнуліся ў абойму альбо захавалі генеральскія пенсіі і чыны. У параўнанні з імі безумоўную павагу выклікае не толькі Захаранка, але і былы міністр абароны Беларусі ў 1992–1994 гадах Павел Казлоўскі, Юрый Барадач і іншыя, якія не пабаяліся ўладнай нянавісці.

І апошняе. На афіцыйным сайце МУС пад душашчыпальнымі назвамі публікуюцца ўспаміны высокапастаўленых чыноў ведамства. Там маюцца «откровения» Ізотава («Жизненной мудрости у меня в достатке») і Рухлядзева («Первопроходец»). На жаль, ні ў Валерыя Сяргеевіча, ні ў Сяргея Ігаравіча не знайшлося слова пра свайго непасрэднага начальніка — міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь у 1994–1995 гадах, генерал-маёра Юрыя Захаранку, які пасля звальнення абодвух называў іх «людьми, отличающимися высочайшим профессионализмом, культурой, принципиальностью и честностью». Як казалі ў старажытнасці: «Suum cuique» — «Кожнаму сваё».



## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Барана рэзалі дарма

Кіраўнікі казахскага хакейнага клуба «Барыс» (Астана) прызналі памылку — яны дарма прынеслі ў ахвяру барана. Барана, паводле мясцовай традыцыі, публічна зарэзалі ў снежні 2017 года. Чамусьці лічылася, што гэта дапаможа камандзе прыпыніць чорную паласу. Зараз «Барыс» рызыкуе ўпершыню за доўгі час не трапіць у другі раўнд спаборніцтваў Кантынентальнай хакейнай лігі (КХЛ), што ўспрымаецца як катастрофа: па-сутнасці «Барыс» — гэта зборная Казахстана. Так ці інакш, рытуал з баранам камандзе не дапамог. Клуб працягвае прайграваць. Затое навіна пра акт ахвяравання выклікала вялікі скандал. Падобныя ўчынкі незразумелыя грамадскасці нават унутры краіны, не кажучы пра замежжа. Шок выклікала сцэна і сярод іншаземцаў, якія гуляюць за «Барыс». Адзін з іх нават страціў прытомнасць падчас цырымоніі. У выніку засталіся задаволенымі толькі аматары жартаў. Цяпер любы пройгрыш «Барысу» яны тлумачаць тым, што каманда-суперніца зарэзала напярэдадні больш бараноў. Самае цікавае, што кіраўніцтва каманды і пасля гісторыі з баранам працягвае эксперыменты. Днямі на трэніроўку запрасілі святароў, якія асвяцілі клюшкі хакеістаў.

**Паводле казахскай прэсы**

### РАСІЯ. «Я Пуціна выбраў за новы айфон»

У Крамлі, падаецца, задумаліся, як забяспечыць патрэбную яўку на «перавыбарах» Пуціна. З адміністрацыі кіраўніка Расіі спушчаная інструкцыя, якая патрабуе прыцягнуць 18 сакавіка — у дзень галасавання, — народ на выбарчыя ўчасткі конкурсамі з каштоўнымі прызамі. Плануецца, у прыватнасці, прапанаваць дасылаць арганізатарам конкурсу сэлфі з выбарчых участкаў. Такія выбаршчыкі аўтаматычна становяцца ўдзельнікамі розыгрышу айфона. Ініцыятыва, за якой стаіць намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Сяргей Кірыенка, павесяліла інтэрнэт-супольнасць. Усе згадалі, што ў свой час гурт «Рабфак» напісаў жартоўную песню пра ўдзельнікаў балотных пратэстаў 2012-га, дзе ёсць словы: «Я Путина предал за новый айфон, поскольку тот тоньше и легче, чем он». Па сутнасці, калі замяніць «предал» на слова «выбрал», атрымаецца гатовы слоган будучага конкурсу.

**Паводле расійскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. У прыбіральню як у клуб

Усіх, хто памятае, якімі брутальнымі былі грамадскія прыбіральні ў савецкі і постсавецкі час, не можа не пацешыць навіна з Берліну. Тут у музеі гомасексуалізму адкрылі выставу «Fenster zum Klo», прысвечаную берлінскім мужчынскім прыбіральням 1980–1990-х гадоў. Аказваецца, гэтыя месцы адыгрывалі значную ролю ў камунікацыі прадстаўнікоў сексуальных меншасцяў у час, калі гэтую катэгорыю абмяжоўвалі ў грамадзянскіх правах. Фактычна, для іх паходы ў клазет былі чымсьці накшталт візіту ў начны клуб. Тут нават прызначаліся спатканні. Фрывольныя надпісы на дзвярах кабінак і сценах WC, калі верыць арганізатарам, дапамагалі гомасексуалам адчуваць сябе несамотнымі. Нельга не ўзгадаць пра адзін кур'ёз. Хаця берлінскія ўлады лічацца вельмі прагрэсіўнымі і падтрымліваюць гомасексуалаў, на выставе гучала крытыка на адрас муніцыпалітэту Берліну. У свой час у горадзе пачалі замяняць грамадскія прыбіральні індывідуальнымі еўрапрыбіральнямі — «City Toiletten», што, нібыта, пахавала тую субкультуру.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ІРАН. Замест турмы — лекцыя пра хусткі



Нягледзячы на тое, што антыўрадавыя пратэсты ў Іране ідуць на спад, краіна відавочна рухаецца ў бок лібералізацыі. Доказ — рашэнне тэгеранскай паліцыі не прыцягваць жанчын, якія з'яўляюцца на публіцы без хустак, да крымінальнай адказнасці. Зараз з парушальніцамі ісламскага дрэс-коду вырашылі абыходзіцца больш мякка, а дакладней — перавыхоўваць. Жанчын-парушальніц будуць накіроўваць у адмысловыя цэнтры, дзе з імі будуць праводзіцца гутаркі пра карысць нашэння хустак і, адпаведна, умераных паводзін. Ужо 7900 чалавек прайшло праз курсы, а ўсяго такіх цэнтраў у тэгеранскай правінцыі цяпер каля 100. На жаль, вынік працы гэтых курсаў невядомы. Гэтак жа, як няма адказаў на шмат пабочных пытанняў: напрыклад, што будзе рабіць паліцыя, калі да яе ў рукі трапіць рэцыдывістка, якая адмаўляецца ад нашэння хусткі і пасля праслухоўвання лекцый.

**Паводле facebook**

# Табарніяй па Каталоніі

Алег НОВІКАЎ




**Падаецца, Мадрыд плануе спыніць рух за незалежнасць Каталоніі за кошт віртуальнай дзяржавы Табарнія.**

Паводле розных падлікаў, у свеце на цяперашні дзень абвешчаныя каля 80 фэйкавых дзяржаў: пачынаючы ад экзатычнага княства Сіленд, якое займае тэрыторыю марской нафтавай платформы, і заканчваючы ўсім нам вядомай Вейншнорыяй. Шанцаў рэалізаваць гэтыя дзяржаўныя праекты ў рэальнасці практычна няма. За выключэннем, магчыма, Табарніі — віртуальнай дзяржавы, якая прэтэндуе на частку барселонскай метраполіі.



Фота www.dw.com

У снежні каталонскія незалежнікі зноў атрымалі большасць у парламенце

Літаральна днямі, 12 студзеня, Табарнія атрымала свайго прэзідэнта. Ім стаў драматург Альберт Баадэла. Яго інаўгурацыя адбылася ў Мадрыдзе, дзе Баадэла, па яго словах, знаходзіцца ў палітычнай эміграцыі. Мяркуючы па змесце выступу «прэзідэнта», гэта была, хутчэй, пародыя на былога каталонскага лідара Карлеса Пучдэмана, які зараз вымушаны хавацца ад іспанскай пракуратуры ў Бруселі. На радзіме, як вядома, Пучдэмана шукаюць за арганізацыю забароненага ўвосень рэферэндуму аб незалежнасці краю.

Здзіўляе, што на сатырычную акцыю Баадэлы адрэагавала шмат цэнтральных іспанскіх СМІ. Такая ўвага прэсы тлумачыцца асаблівасцямі цяперашняга палітычнага працэсу ў Іспаніі. У снежні па выніках выбараў каталонскія незалежнікі зноў атрымалі большасць у парламенце, які месяцам раней цэнтр распусціў за сепаратызм. Вынікі снежаньскага галасавання паставілі крыж на стратэгіі Мадрыду палітычна маргіналізаваць сепаратыстаў. Відавочна, што праз нейкі час з боку дэпутацкай большасці зноў загучаць заклікі на карысць незалежнасці. Што рабіць тады цэнтральнаму ўраду — у чарговы раз распускаць парламент, каб пасля новых выбараў атрымаць яго зноў? І тут камусьці на вочы трапіў праект «Табарнія».

Табарнію прыдумалі яшчэ з 2012 годзе ў колах той часткі каталонскай багемы, якая выступае супраць незалежнасці. Сама назва новай дзяржавы паўстала шляхам аб'яднання назваў двух самых вялікіх гарадоў рэгіёну: Тарагоны і Барселоны. Тут традыцыйна галасуюць за лаяльныя Мадрыду палітсілы, што, на думку бацькоў праекту, дае рэгіёну правa на аўтаномію ў складзе Каталоніі.

Аднак па-сапраўднаму ідэя Табарніі пайшла ў масы ўвосень 2017-га — паралельна са спробамі абвясціць незалежнасць Каталоніі. Хутка падпісчыкаў на акаўнт Табарніі ў інтэрнэце стала больш за 660 тысяч. Табарнійцы таксама прыдумалі свой сцяг, гімн, іншыя атрыбуты дзяржаўнасці. А зараз, як бачым, паўстаў яшчэ і інстытут прэзідэнта.

Хаця ўсё дзяржаўнае будаўніцтва Табарніі больш падобнае на жарт, ім, падаецца, вельмі моцна зацікавіліся ў Мадрыдзе. Можна меркаваць, што існуе неагучаная ідэя неяк выкарыстаць незвычайны пратэст. Тым больш, што рух за Табарнію ўжо дамогся канкрэтных вынікаў. Замежная прэса ў апошні час надае больш увагі Табарніі, чым праекту незалежнай Каталоніі. Прычым (гэта прызнаюць нават фанаты незалежнасці) упершыню за час крызісу сімпатыі еўрапейскай грамадскасці аказаліся на баку праціўнікаў сепаратызму. У публікацыях табарнійцы выглядаюць творчымі і вольнымі асобамі, якім супрацьстаіць каталонскі бюракрат.

Так ці інакш, мадрыдскія медыя агітуюць за Табарнію. Робяцца сур'ёзныя эканамічныя разлікі наконт таго, якой заможнай магла быць аўтаномія, калі б грошы мясцовых падаткаплацельшчыкаў не ішлі на субсідыі для каталонскай перыферыі. Бухгалтэрыя сапраўды вельмі правакацыйная для жыхароў Барселоны. Барселонская метраполія дае ў бюджэт Каталоніі каля 90 працэнтаў усіх фінансавых паступленняў, аднак у выніку пераразмеркавання ёй вяртаецца толькі 60 працэнтаў.

Юрысты ўсур'ёз займаюцца пошукам прававых зачэпак, на падставе якіх Табарнія можа патрабаваць права на адміністратыўную суб'ектнасць. На першае месца высоўваецца права грамадзян самім вырашаць свой калектыўны лёс.

Культуролагі і гісторыкі разважаюць пра феномен некаталонскай, або «іншай Каталоніі». Узгадваюць, што ў свой час існавала асобная дзяржава — Барселонскае графства, нашчадкамі жыхароў якой, быццам, з'яўляюцца «табарнійцы».

27 снежня Каралеўская акадэмія Іспаніі праінфармавала пра наяўнасць у іспанскай мове выслоўя «табарніец», што азначае «жыхар Табарніі».

Хаця медыякампанія па раскрутцы Табарніі ідзе поўным ходам, дасюль незразумелая яе фінальная мэта. Няўжо Мадрыд сапраўды збіраецца інспіраваць палітычны рух за аўтаномію Табарніі? Іншая версія — істэрыка наконт Табарніі спатрэбілася цэнтру як інструмент шантажу аматараў суверэннай Каталоніі. Напрыклад, мадрыдскае праваe выданне «La Razon» ледзь не адкрыта папярэджвае: сігналам для палітычнага выступу за аўтаномію Табарніі можа быць нейкі неасцярожны, радыкальны крок незалежнікаў.

Аднак выкарыстаць Табарнію напоўніцу будзе няпроста. Для гэтага Мадрыду спатрэбіцца перазагрузка праекту. Зараз спікерамі руху з'яўляюцца прадстаўнікі моладзі і творчай тусоўкі, якія бачаць у Табарніі, няхай і палітызаваную, аднак, па вялікім рахунку, гульню. З іншага боку, менавіта тут і хаваецца сакрэт прывабнасці праекта. Вельмі сумнеўна, што больш сур'ёзны фармат будзе карыстацца такой жа масавай падтрымкай.

# Выбары з сунічным прысмакам

Алег НОВІКАЎ

**Дзякуючы кандыдату КПРФ Паўлу Грудзініну выбары прэзідэнта Расіі набылі хоць нейкую інтрыгу. Пра феномен Грудзініна і перыпетыі кампаніі распавядае маскоўскі палітолаг Дзмітрый Кастэнка.**



Фота www.president-rf.ru

*— Як Павел Грудзінін, даверaная асоба Пуціна і «адзінарос», умудрыўся стаць іконай камуністаў?*

— Шлях Грудзініна ў палітыку вельмі незвычайны. Яго калі і ведалі, дык хутчэй як удалага бізнесоўца, нефармальнага ўладальніка ЗАТ «Саўгас імя Леніна», што пад Масквой. Дзякуючы таму, што саўгас знаходзіцца за кальцавой, тут можна лёгка зарабляць на арэндзе. Дастаткова сказаць, што на тэрыторыі знаходзіцца найбуйнейшы ў Маскве гандлёвы цэнтр «Крокус-сіці», да якога нават праведзена лінія метро. Вядомы саўгас і як вытворца суніцаў.

Аднак расійская рэальнасць пабудаваная так, што нават паспяховым бізнесоўцам патрэбны палітычны дах. Спачатку Грудзінін фліртаваў з «мядзведзямі», потым — з Жырыноўскім, пакуль не прыбіўся да лагера Зюганава. Менавіта камуністы зрабілі Грудзініна папулярнай фігурай сярод левых, стварыўшы яго саўгасу імідж «народная прадпрыемства», дзе супрацоўнікі, нібыта, атрымліваюць да тысячы долараў у месяц. У выніку Грудзінін нечакана апынуўся здольным канкураваць з лідарам КПРФ і выйграў восеньскія праймерыз адзінага левага кандыдата.

*— Некаторыя лічаць, што той праймерыз быў вельмі непразрыстым. Нават магчыма,што яго вынікові пратакол пісалі ў Крамлі...*

— З праймерыз, сапраўды, шмат незразумелага, паколькі ніякага кантролю за галасаваннем не было. Удзельнічаць у галасаванні маглі і папросту праплачаныя «боты». Колькасць удзельнікаў галасавання (16 тысяч чалавек) не адлюстроўвае пазіцыі ўсяго левага электарату. Таму Зюганаў мог лёгка ігнараваць перамогу Грудзініна. Але ўнутры яго партыі пачаўся бунт. Незадаволеныя Зюганавым фракцыі запатрабавалі вылучэння ў якасці кандыдата КПРФ менавіта Грудзініна. У выніку кіраўніцтва паддалося ціску. Зрэшты, не выключана, што гэта быў пралічаны ход. Слабы вынік Грудзініна на прэзідэнцкіх выбарах дыскрэдытуе ўсіх праціўнікаў Зюганава. У тым ліку можа забяспечыць Зюганаву магчымасць правесці на пасаду лідара партыі свайго ўнука Леаніда Зюганава, цяперашняга дэпутата Масавета ад КПРФ, вядомага бізнесоўца.

*— Кандыдат Грудзінін стартаваў вельмі паспяхова. Зараз у рэйтынгах ён ідзе на другім месцы пасля Пуціна з 7–10 працэнтамі. Някепска для палітыка-неафіта...*

— Інтарэс да Грудзініна, на мой погляд, сітуацыйны. Ён абумоўлены тым, што Грудзінін — новы твар у расійскай палітыцы. Яго падтрымала частка лібералаў, якім імпануе вобраз паспяховага бізнесоўца. Але цяжка сказаць, як доўга захаваецца гэты трэнд. Па-першае, Грудзініным упершыню пачалі моцна цікавіцца журналісты, якія адразу знайшлі на яго кампрамат — рахункі ў замежжы, навагодні адпачынак у Германіі. Гэтай інфармацыі ўжо хапіла, каб ад дырэктара саўгаса пачаў трымаць дыстанцыю левы актыў, які не хоча падтрымліваць «буржуя». Цяпер Грудзінін спрабуе кампенсаваць сабатаж левых за кошт прыцягнення нацыяналістаў, але на патрыятычным полі Пуціна ўсё роўна не пераплюнуць. З улікам гэтага, хутчэй за ўсё, Грудзінін згубіць цяперашнюю адносную папулярнасць.

*— Некаторыя прапуцінскія выданні баяцца, што кандыдатуру Грудзініна могуць падтрымаць на Захадзе. Там, нібыта, уцямілі, што Майдану ў Расіі ўсё роўна не атрымаецца, і вырашылі зрабіць стаўку на значна больш папулярныя ў грамадстве левыя ідэі, настальгію па савецкіх часах. Пішуць, што «пятай калоне» ўжо паслалі сігнал аб неабходнасці падтрымаць Грудзініна...*

— Не думаю, каб на Захадзе, які традыцыйна робіць стаўку на Навальнага, маглі так хутка пераарыентавацца на новыя імёны. Для гэтага як мінімум патрэбная санкцыя Трампа, які нічога не разумее ва ўнутранай расійскай палітыцы. Дый сам Грудзінін наўрад ці будзе аспрэчваць пройгрыш на выбарах, заклікаць людзей на вуліцы. Папулярная думка, што кампанія патрэбна яму як заяўка на пасаду губернатара Маскоўскай вобласці.

*— Хто можа сарваць сцэнар выбараў Пуціна? Рыгор Яўлінскі, Ксенія Сабчак ці Аляксей Навальны, які анансаваў кампанію байкоту?*

— Яўлінскі прадстаўляе вельмі малую частку інтэлігенцыі, якой цікавейшы не Майдан, а калектыўнае спевы бардаўскага хіта «Как здорово, что все мы здесь сегодня собрались». Сабчак — відавочны спойлер Пуціна, якую могуць падтрымаць хіба гледачы яе шоў «Дом-2». За Навальным стаіць толькі частка мажорнай моладзі. Увогуле, у самім расійскім грамадстве няма запыту на Майдан, паколькі сітуацыя ў эканоміцы больш-менш стабілізавалася. Акрамя таго, няма расколу ў эліце, як у 2011-м, калі шмат хто быў гатовы падтрымаць другі тэрмін Мядзведзева, што, па сутнасці, азначала канец асабістага дамінавання Пуціна ў расійскай палітыцы. Рэальную пагрозу для рэжыму сёння ўтрымліваюць, напэўна, толькі наступствы персанальных санкцый супраць пуцінскіх алігархаў, якія Злучаныя Штаты плануюць увесці ў лютым. Калі пачнуцца канфіскацыі рахункаў на Захадзе, дык выключаць «палацавую змову» з удзелам спецслужбаў нельга.

**Расійская рэальнасць пабудаваная так, што нават паспяховым бізнесоўцам патрэбны палітычны дах. Спачатку Грудзінін фліртаваў з «мядзведзямі», потым — з Жырыноўскім, пакуль не прыбіўся да лагера Зюганава, і выйграў восеньскія праймерыз адзінага левага кандыдата**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Нікалас Мадура



Кіраўнік Венесуэлы скончыў незвычайны канфлікт з Партугаліяй. З пачатку студзеня Каракас вінаваціў Лісабон у тым, што той не дазволіў венесуэльцам нармальна сустрэць Каляды і Новы год.

Нармальная сустрэча згаданых святаў па-венесуэльску — прысутнасць на стале блюдаў са свініны. Набыць свініну ў цяперашняй Венесуэле, дзе пануе харчовы крызіс і інфляцыя,— задача няпростая. Таму венесуэльскі ўрад, паводле слоў Мадуры, вырашыў набыць аднаразова вялікую партыю мяса ў Партугаліі, каб забяспечыць прадуктамі рынак на час святаў. Аднак у выніку доўгачаканая свініна ў Венесуэлу не прыйшла. На думку Мадуры, тут хаваецца змова з мэтай падарваць стабільнасць у краіне.

Сапраўды, дэфіцыт мяса выклікаў буйныя вулічныя пратэсты, падчас якіх паліцэйскі застрэліў цяжарную жанчыну, што, у сваю чаргу, кепска паўплывала на аўтарытэт рэжыму. Мадура адразу зрабіў адказнай за інцыдэнт партугальскую фірму — пастаўшчыка свініны. У дырэкцыі фірмы на гэта кажуць, што нават не збіраліся дастаўляць мяса ў Венесуэлу, пакуль мясцовы ўрад не заплаціць за партыю, якую набыў яшчэ ў 2016-м.

У выніку для аднаўлення дыялогу давялося падключаць дыпламатаў. На мінулым тыдні Каракас наведаў шэф партугальскай дыпламатыі, які падпісаў з мясцовым калегам некалькі інвестыцыйных кантрактаў. Пасля гэтага антыпартугальская рыторыка ў венесуэльскіх прадзяржаўных СМІ знікла.

### Экмат Байбакпаеў



Дэпутат парламента Кыргызстана не так даўно пабачыў у інтэрнэце фота, дзе нехта апранае на сабаку так званы «Ал Колпак» (белы каўпак) — нацыянальны ўбор кіргізаў. Выява сабакі з каўпаком так абурыла палітыка, што ён выступіў ініцыятарам арыгінальнага законапраекта.

Праект закону абавязвае прэзідэнта, прэм'ер-міністра, спікера парламента і іншых вышэйшых дзяржаўных асобаў падчас афіцыйных прыёмаў і замежных візітаў насіць згаданы галаўны ўбор. Пры гэтым сам каўпак, як вынікае з законапраекта, атрымлівае статус дзяржаўнага сімвала — то бок, прыроўнены да сцяга, герба і гімна. Распрацоўшчык законапраекта лічыць, што такі закон неабходны ў мэтах духоўнага развіцця і захавання шматвяковай традыцыі кіргізскага народа.

Ідэя, аднак, аказалася неадназначнай. З аднаго боку, у краіне сапраўды ёсць культ белага каўпака, які даўно стаў турыстычным брэндам краіны. Нездарма ў 2016 годзе парламент Кыргызстана ўвёў у святочны каляндар Дзень нацыянальнага галаўнога ўбору (яго адзначаюць 5 сакавіка). З іншага боку, відавочна, што ў краіне ёсць больш важныя праблемы, чым галаўныя ўборы. У тым ліку значна больш культурнай традыцыі пагражае экспансія кітайскіх падробак белага каўпака, якія знішчаюць вытворчасць каўпакоў у самім Кыргызстане.

### Хельмут Хольтэр




Міністр культуры зямлі Цюрынгія, якая ў свой час была часткай ГДР, шакаваў нямецкую грамадскасць заявай пра неабходнасць абменаў школьнікамі паміж навучальнымі ўстановамі Захаду і Усходу краіны.

«Нам патрэбныя не школьныя абмены з Польшчай і Францыяй, а паміж Штутгартам і Лейпцыгам», — мяркуе міністр.

Прапанова выглядае дзіўнай з улікам таго, што Германія аб'ядналася больш за 27 гадоў таму. Між тым, чыноўнік лічыць, што інтэграцыя на цяперашняй фазе забуксавала. Па словах Хольтэра, паміж немцамі з розных рэгіёнаў зноў назіраецца рост недаверу, індыкатарам якога з'яўляюцца розныя электаральныя сімпатыі (ва Усходняй Германіі ўсё часцей абіраюць палітыкаў-ксенафобаў). Праблемы аб'яднання, на думку Хольтэра, таксама ляжаць у сферы нежадання заходніх немцаў цікавіцца, чым жывуць усходнія суайчыннікі.

Паколькі ўрад у Цюрынгіі фармуюць левыя партыі, прапанову Хольтэра моцна крытыкуюць яго правыя апаненты. На іх думку, Хольтэр сваёй заявай засведчыў нядзольнасць прапанаваць усходнім немцам агульнае бачанне гісторыі Германіі, і ўвогуле правакуе раскол.

Застаецца дадаць, што ініцыятыва цюрынгскага міністра, як бачна па інтэрнэце, не выклікала захаплення і сярод школьнікаў Заходняй Германіі, якім, натуральна, больш падабаецца падарожжа ў Іспанію або Італію, чым на нямецкі Усход.

# Напалеон, поўдзень імперыі і канец эпохі рыцарства



Абдымкі Напалеона і Аляксандра I на мініяцюры, прысвечанай Тыльзіцкаму міру

Андрэй ВАШКЕВІЧ,
Алесь КІРКЕВІЧ

**Банапарт, як і кожны персанаж масавай культуры, даўно перарос рэальнага чалавека, які стаўся ягоным прататыпам. Падзеі 1812 года пераўтварыліся ў мінулае, мінулае — у гісторыю, а гісторыя — у міф. Што значылі Напалеонаўскія войны для Еўропы, Расіі і нашых земляў, якія яшчэ зусім нядаўна жылі пад знакам Арла і Пагоні?**

Сёння мы маем вельмі стэрэатыпнае бачанне падзеяў мяжы XVIII і XIX стагоддзя на нашых землях. З аднаго боку, падзелы Рэчы Паспалітай як адназначнае зло, змову, у якой галоўным зацікаўленым бокам была Расія. З іншага — Вайна 1812 года ў нашым грамадстве дагэтуль успрымаецца як «айчынная». Гераічны прапагандысцкі міф, датычны 1812 года, створаны за часамі Мікалая I, паспяхова дажыў да нашых дзён нават за межамі ўласна Расіі.

Над міфам сапраўды добра папрацавалі: як гісторыкі, уключна са сталінскай плеядай, так і літаратары. Сфармаваны ў 1830–1840-х міф паспяхова перажыў саму імперыю, бо апынуўся запатрабаваным нават у 1941-м, калі выгодна было праводзіць паралелі паміж Напалеонам і Гітлерам — маўляў, сышоў першы, сыдзе і другі, галоўнае, завабіць як мага глыбей і дачакацца зімы. Нават эстэтычна пачатак XIX стагоддзя вымалёўваўся як «ідэальны час» Расіі, «поўдзень імперыі», а момант уваходу казакоў у Парыж у 1814 годзе — як найбольшае вайсковае дасягненне ажно да моманту штурму Берліна ў 1945-м.

Архітэктарам «поўдня Імперыі» можна лічыць Аляксандра I, чалавека, які заклаў ідэалагічную аснову для існавання Расіі на шмат дзесяцігоддзяў наперад. Нагадаем, што парадак сілаў у Еўропе і свеце, які стаў плёнам Венскага кангрэсу пераможцаў Напалеона, пацярпеў канчатковае фіяска толькі праз сорак гадоў — у 1855-м, з пачаткам Крымскай вайны, якая апынулася для Расіі катастрофай.

### «Няма больш польскага шляхціца Браніцкага...»

Але вернемся крыху раней, у часы скону Рэчы Паспалітай. Падзелы для нас — гэта спланаваная драпежніцкая аперацыя Расіі. Але Рэч Паспалітая і так стаяла на каленях на працягу ўсяго XVIII стагоддзя і фактычна з'яўлялася расійскім пратэктаратам. Нагадаем, што яшчэ ў 1717 годзе РП падпісала з Пятром I дакумент, згодна якому расійскія войскі могуць уваходзіць на тэрыторыю краіны без усялякіх дазволаў з мэтай абароны правоў праваслаўных, адстойвання мясцовых прывілеяў і г.д. Трэнды змяняюцца: сёння ў падобнай дамове ішлося б пра абарону правоў «рускамоўнага насельніцтва»... Сутнасць жа тая самая.

Разам з тым, сама Расія ў Рэчы Паспалітай успрымалася інакш — гэта не быў адназначна «д'ябал з усходу». Прарасійская партыя сярод шляхты і магнатаў у Сойме была наймагутнейшай. Расіі не было патрэбаў дзяліць РП: гэта быў неабходны буфер, слабая дзяржава пад бокам. Тут можна было вырашаць свае фінансавыя і палітычныя пытанні, накопліваць вайсковыя адзінкі і г.д.

Што атрымала Расія з падзелаў? Беларуска-украінска-літоўскія землі. Хоць Кацярына II і казала, маўляў, «не ўзяла ані пядзі польскай зямлі», але і Польшча збольшага ў выніку ўсё ж такі была далучаная да імперыі. У выніку, Расія атрымала паляка-ворага на вечную перспектыву, і пры гэтым неймаверна ўзмацніла Прусію, якая пасля падзелаў павялічылася ў два разы. Па сутнасці, Расія сама зрабіла Прусію еўрапейскай імперыяй, заклаўшы грунт для сумных гісторыяў XX стагоддзя.

Фармальна ўсё гэта рабілася для інтарэсаў Расіі. У рэальнасці ж не трэба забывацца, што сама Кацярына была... немкай. Так была рэалізаваная канцэпцыя часоў позняга Тэўтонскага ордэну аб падзеле ВКЛ і Кароны паміж Масковіяй, Ордэнам і Габсбургамі, актуальная ў часы Аршанскай бітвы пачатку XVI стагоддзя. Атрымліваецца, немка рэалізавала канцэпцыю тэўтонаў, а праблемы ў выніку займела акурат Расія.

Датай скону Рэчы Паспалітай прынята лічыць 1795-ы, год апошняга падзелу і адрачэння Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Але на той момант ад караля ўжо нічога не залежала, дата — усяго толькі ўмоўнасць. Ёсць яшчэ адна дата — студзень 1797 года, калі паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй была падпісаная дамова, згодна якой Рэч Паспалітая не павінна была паўстаць больш ніколі. Гэта была адкрытая змова аб знішчэнні вялікай незалежнай дзяржавы.

Зазвычай, мы разважаем пра трагедыю падзелаў Рэчы Паспалітай з пункту гледжання нас сённяшніх, заадно, дадаючы, што трагедыяй гэта было і для тагачаснай шляхты. Але паказальна, што шмат для каго ўсё гэта было толькі... зменай падданства. Варта ўзгадаць знакавую фразу аднаго з Браніцкіх: «Няма больш польскага шляхціца Браніцкага, ёсць рускі падданы Браніцкі». Нацыянальнасць тады адыгрывала значна меншую ролю за падданства, таму багата хто са шляхты наўпрост пераўтварыўся ў аўстрыйскіх, прускіх ці рускіх падданых, хай сабе і польскага альбо ліцвінскага паходжання.

### Зорка Напалеона і мулаты з польскімі прозвішчамі

Прайшло прыкладна паўгода пасля змоўніцкай дамовы пра знішчэнне Рэчы Паспалітай на векі вечныя, і летам 1797-га ў Італіі ўпершыню прагучала «Мазурка» Дамброўскага. Так польская нацыя ўпершыню заявіла пра сябе не як пра шляхецкую нацыю падданых караля, але як пра цалкам новую супольнасць, аб'яднаную нацыянальнай салідарнасцю і агульнымі мэтамі.

За год да гэтага, увесну 1796-га, маладога генерала Напалеона пасылаюць у Італію для змагання з аўстрыйцамі. Банапарт граміць праціўніка, даходзіць амаль да Вены, а разам з ягонай зоркай узыходзіць і зорка «Касцюшкаўскіх генералаў», якія не хацелі мірыцца з падзеламі сваёй дзяржавы. Хто гэта былі і што прывяло іх у Італію?

Найвядомейшы, безумоўна, Юзэф Дамброўскі, этнічны паляк, які ў побыце карыстаўся збольшага нямецкай мовай — піянер і адначасна рэлікт стагоддзя, цягам якога краінай кіравалі «Сасы» (каралі-саксонцы). Тут жа Юзэф Сулкоўскі, больш радыкальны, з якабінскім адценнем у поглядах. Дамброўскі трапіў да Напалеона праз адмысловы польскі камітэт, які быў створаны пры французскім канвенце. Далей — болей. У выніку баёў з Аўстрыяй у Банапарта апынулася некалькі тысяч палонных сялян з Галіцыі, якія сталі асновай для Першага польскага легіёну, які налічваў ужо 5 000 чалавек.

У 1797-м гучыць тая самая «Мазурка», напісаная адным з польскіх афіцэраў. Тады ж італьянскімі прыхільнікамі Напалеона ўпершыню ўздымаецца сучасны італьянскі сцяг. Фактычна, гэта перыяд нараджэння нацыяў: не сярэднявечных, а сучасных. Цікава сёння праглядаць тэкст «Мазуркі», у якім чытаем: «Пяройдзем Віслу, пяройдзем Варту...» Што тут незвычайнага? У ранейшых польскіх вайсковых песнях заўжды ідзецца пра Дняпро ці Нёман — гэта ўсходні вектар, шлях экспансіі. Тут жа гаворка пра Захад ды польскія этнічныя тэрыторыі: палякі ўпершыню паглядзелі на сябе па-новаму, збоку.

Так пачынаецца гераічная і сумная гісторыя польскіх легіёнаў. Сулкоўскі гіне падчас Егіпецкага паходу: яго разарвалі башыбузукі, чытай, янычары. Далей Напалеон адпраўляе палякаў душыць паўстанне рабоў на Гаіці, дзе тыя церпяць неймаверныя страты, з тысяч вяртаецца адно пара сотняў чалавек... Пройдзе 200 гадоў — і сёння на Гаіці можна будзе сустрэць блакітнавокіх мулатаў з польскімі прозвішчамі: нечым нагадвае міфічную гісторыю з нашчадкамі жаўнераў Аляксандра Македонскага ў Афганістане.

### «Не загадвайце думак імператара...»

Рускаму імператару не падабаўся польскі рэнесанс пад кантролем канкурэнта. Але калі з'ява ўжо мае месца, яе трэба не душыць, а... узначаліць, перахапіць ініцыятыву. Так побач з ім з'явіліся маладыя Чартарыйскія ды Агінскі, якія верылі ў польскую ідэю пад крылом расійскага арла, пачалі гучаць ідэі пра аднаўленне Рэчы Паспалітай з ласкавай згоды цара... Але гэта толькі словы. Разам з тым, адназначнай звязкі «Польшча — Напалеон» таксама тады яшчэ не было.

Напалеон, гэтым часам, няспынна ваюе: супраць яго ладзяць кааліцыі, ён іх разбівае. У 1805-м ён граміць аўстрыйцаў і рускіх пад Аўстэрліцам. У нейкім сэнсе бітва ў далейшым вырашыць лёсы Еўропы: менавіта тады малады Аляксандр I, які спрабаваў кіраваць войскамі персанальна, церпіць асабістую паразу, а гэта — крыўда на ўсё жыццё. Ягоная мара быць




Цень Напалеона ў Другой сусветнай вайне — плакат Кукрыніксаў, дзе праводзіцца паралель між Банапартам і Гітлерам

лепшым ваяводам за Напалеона разбіваецца ўшчэнт. Зрэшты, Аляксандр зробіць з гэтага свае высновы — і больш ніколі не будзе кіраваць войскамі ўласнаручна.

У наступным 1806-м Напалеон вядзе ўжо Прускую кампанію — і змешвае магутную армію ворага з брудам. Упершыню за амаль 10 гадоў ягонае войска апынулася на мяжы этнічнай Польшчы: Познань, а далей і Варшава — гэта ўсё частка Прусіі таго часу. Яго адгаворвалі ісці далей — маўляў, Расія, Аўстрыя і Прусія назаўжды стануць ворагамі Францыі, гульні скончацца. Але ён не слухаў ды крочыў далей.

І тут... шок! Такіх радасці і імпэту з боку палякаў ён не мог сабе ўявіць: яго сустракаюць як вызваліцеля. Палякі вераць у аднаўленне сваёй нядаўна забранай дзяржавы, але тут ужо Дамброўскі раіць суайчыннікам астудзіць пыл ды «не загадваць думак імператара». Што? Чых думак? Нейкага капрала?.. Тут ужо палякі-незалежнікі адчуваюць, што не ўсё так проста.

Што далей? Умешваецца Расія, некалькі жудасных бітваў — Фрыдланд, Прэйсіш-Эйлаў... і нарэшце Тыльзіцкі мір 1807 года. Напалеон стварае герцагства Варшаўскае, новы сасуд для польскай дзяржаўнасці. Палякі дагэтуль ставяцца да яго супярэчліва. З аднаго боку, дзяржава — гэта фактычна вайсковы плацдарм, яна не мае рэальнай незалежнасці. З іншага — нават за такую дзяржаву чужынцы-французы заплацілі немалы кошт: лічыцца, што ў бітвах 1806–1807 гадоў з рускімі і прусакамі загінула каля 50 000 жаўнераў Напалеона.

### Падзел свету: Расіі — Усход, Францыі — Захад

Што ж думае сам імператар? Польшча для Напалеона — толькі кавалачак плану, каляровае шкельца ў мазаіцы. Нават Расія для яго — не галоўны вораг. Хто ж тады? Англія. Навошта тады ваяваць з Расіяй? Бо Расія — галоўны гандлёвы партнёр Англіі, які забяспечвае Туманны Альбіён зернем, дрэвам, пянькой для канатаў. Брытанскі флот — гэта акурат расійская пянька і дрэва.

Таму галоўная ўмова Тыльзіцкага міру — далучэнне Расіі да кантынентальнай блакады Англіі. Усяго толькі. Расія — не самамэта. У адказ Банапарт абяцае, што ніколі не будзе ствараць дзяржавы з назвай «Польшча»: ён быў на гэта гатовы, чаму не? І тут самае цікавае: Расія і Францыя ў гэты момант маглі падзяліць свет, уклаўшы нешта кшталту пакту Молатава — Рыбентропа.

Што прапанаваў Напалеон? Расія трымае сваю сучасную тэрыторыю і далей рухаецца ў Азію. Ён аддае рускім Канстанцінопаль, пра які марыла Кацярына II, Асманская імперыя спыняе існаванне. Банапарт, у сваю чаргу, разглядае варыянт жаніцьбы на адной з сёстраў Аляксандра.

Перад Расіяй адчыняюцца фантастычныя перспектывы: Турцыя, Канстанцінопаль, Індыя... Нагадаем, што Расія тады засвойвала Аляску, не калоніі былі ледзьве не ў Каліфорніі. Такім чынам, калі б усходні вектар развіцця і кантынентальнай экспансіі здзейсніўся, Расія сталася б глабальнай дзяржавай. Але... заўжды ёсць свае «але».

Рускія эліты складаныя ў плане сваіх архетыпаў: з аднаго боку, яны заўжды крытыкуюць Англію як квінтэсенцыю заходняга мыслення і ладу жыцця. З іншага, Лондан — даўні сябар і фінансавы партнёр Масквы, што ў тыя часы, што ў часы Абрамовіча і Пуціна. Нават забойства бацькі Аляксандра, Паўла I (той самы ўдар табакеркай), не абышлося без удзелу англійскага пасла.

Але найперш Англія для Расіі — гэта грошы. За гады кантынентальнай блакады 1807–1812, да якой Расія фармальна далучылася, але выконвала слаба, расійскі экспарт упаў у тры разы. Расійскія памешчыкі, якія зараблялі на пяньцы і іншых таварах, наўпрост бяднелі. А хто кіраваў у Расіі? Памешчыкі! Гэта дваранская алігархія. Яны не маглі аб'ектыўна ўпадабаць такі расклад.

У дадатак да ўсяго — фактар крыўды і зайздрасці Аляксандра да Напалеона. Рускі імператар наўпрост не лічыў яго вартым! Просты прыклад: па-французску Аляксандр размаўляў значна лепш за карсіканца Банапарта. Аляксандр так і не рашыўся на падобны саюз ды новы падзел свету, а наступныя перамовы так не да чаго і не прывялі.

### 1812 — усяго толькі чарговая кампанія...

Што ж такое 1812 год? Для Напалеона — усяго толькі чарговая вайсковая кампанія. Для рускіх — «нашэсце д'ябла на Расію»... План Напалеона быў наступны: разбіць рускае войска ў раёне Вільні. Страта Вільні лічылася вельмі важнай, бо на той момант гэта быў трэці па памерах горад у Расійскай імперыі пасля Пецярбурга і Масквы. Задача Напалеона — актуалізаваць дамову пра кантынентальную блакаду, дамагчыся, каб яна рэальна працавала, — і так задушыць Англію. Навошта яму Расія?

Але сталася тое, што сталася. Рускія татальна адступаюць, пасля, праз гады, назваўшы гэта «скіфскай тактыкай» — завабліваннем ворага ўглыб краіны. Банапарт цягне войска ў нетры імперыі. Набліжаецца восень, Банапарт у Віцебску разважае, што рабіць далей. Юзэф Панятоўскі прапаноўвае сваё бачанне: усе польскія часткі маюць рушыць на поўдзень, разбіць генералаў Чычагава і Тармасава, заняць тэрыторыю, падняць там мясцовую шляхту і... стварыць новую дзяржаву.

Але Банапарт — найперш вайсковец. Ён упэўнены, што войска трэба трымаць разам, у кулаку. Гэты кулак даходзіць да Масквы, якую рускія ганебна здаюць, а далей... зіма. Надвор'е, як заўжды, робіць сваю справу.

### «Дубіна народнай вайны»

Што яшчэ важна? Напалеон, калі ішоў сюды, як і Гітлер, не меў палітычнай канцэпцыі — толькі вайсковую стратэгію. Кажуць, Банапарт разважаў наконт адмены прыгону ў Расіі. Але канчатковую стаўку ён зрабіў на мясцовага землеўласніка, нават калі той рускі паводле паходжання. Нават савецкі гісторык Тарле піша, што французы пасылалі свае аддзелы на дапамогу рускім памешчыкам, каб бараніцца ад сялянскіх пагромаў.

Тут Напалеон адназначна паказаў сябе манархам, а не рэвалюцыянерам. Магчыма, галоўная праблема Банапарта была ў тым, што ён апярэдзіў свой час, сам таго не зразумеўшы. Пакуль ён быў французскім генералам у кантэксце рэвалюцыі, у яго ўсё атрымлівалася. Калі стаўся імператарам французаў і пачаў гуляць па правілах каралёў — усё пайшло прахам.

Вяртаючыся да тэмы сялянаў і прыгону, нельга не згадаць пра міф «Дубіны народнай вайны», створаны рускімі літаратарамі. «Дубіна» сапраўды лупіла, але лупіла па ўсіх. Дастаткова ўзгадаць адзін з першых беларускамоўных вершаў Баршчэўскага «Рабункі мужыкоў», дзе апісаны гнеў раззлаваных сялян. Альбо гісторыю партызанаў Дзяніса Давыдава, якога ледзьве не лінчавалі вяскоўцы: пасля Давыдаў засвоіў урок, адпусціў бараду і пераапрануўся ў армяк.

«Дубіна» ў рэальнасці — гэта хаос, пагромы і рабункі. Калі б у Напалеона хапіла смеласці адмяніць прыгон, ён мог бы скіраваць яе ў сваіх інтарэсах, але... Зноўку, «але». На фінальным этапе адступаючых французаў рабаваць і браць у палон было прасцей, сяляне скемілі, хто слабейшы, вось вам і «ўсенародная айчынная вайна».



Пагоня з рыштунку ўланаў ВКЛ у складзе Арміі Напалеона

**Для рускіх паход у Францыю стаўся нечым кшталту Крыжовых паходаў для сярэднявечных рыцараў: адтуль, з Захаду, яны прынеслі новыя культурныя элементы ды і самі вярнуліся іншымі**

### Чым усё скончылася?

1814 год, Напалеона ссылаюць на Эльбу, Аляксандр уваходзіць у Парыж. Некаторыя мемуарысты згадваюць, што французкі-манархісткі крычалі: «Аляксандр, заставайся, будзь імператарам!» Мемуарысты працягваюць, маўляў, па рускім імператары было бачна, што яго больш цешыла б перспектыва быць імператарам Францыі, чым Расіі...

Аляксандр прывёў Расію на пік велічы. Цікава, што ў Францыі дзе-нідзе дагэтуль стаяць верставыя слупы пры дарогах, памятка пра акупацыю, што трывала з 1814 па 1818-ы. Там упершыню сярод рускага дваранства стала модным есці вустрыцы, запіваючы шампанскім, а пустыя бутэлькі ў рэстаранах хаваць пад стол (афіцыянты рабілі рахунак па пустой тары на стале). Для рускіх паход у Францыю стаўся нечым кшталту Крыжовых паходаў для сярэднявечных рыцараў: адтуль, з Захаду, яны прынеслі новыя культурныя элементы ды і самі вярнуліся іншымі.

Што з гэтага атрымала Расія? Магутнасць і ўплыў, якія... на доўгія гады закансервавалі ўнутраныя праблемы вялізнай краіны. Палітычны строй, грамадскі парадак, адмова ад амерыканскіх калоніяў... Навошта змяняцца? Мы ж пераможцы! З калоніямі сітуацыя вельмі характэрная: каб іх засвоіць, патрэбен быў свабодны мужык, які паедзе будаваць асабістую будучыню, свой дом. Але хто ж яго адпусціць? Пасля перамогі ў паветры лунала лёгкая надзея на адмену прыгону, перакрэсленая знакамітай фразай Аляксандра: «Крестьянам Бог воздаст».

Усё гэта вельмі нагадвае сітуацыю з перамогай Савецкага Саюза над Германіяй у 1945-м, шчырымі спадзяваннямі людзей на адмену калгаснай сістэмы, канцом рэпрэсіяў, зменамі ва ўнутраным жыцці краіны. Але такі закон усходніх імперыяў: кожная перамога толькі кансервуе сістэму. Урэшце, так і сталася. Яшчэ Карл Маркс называў Расію азіяцкай дзяржавай з еўрапейскай арміяй. Але нават гэтая армія, дзе афіцэры свабодна валодалі французскай мовай, пацярпела катастрофу ўжо праз паўстагоддзя ў Крымскай вайне: калос, як апынулася, стаяў на гліняных нагах.

### Закон кармы

Што ж з нашым рэгіёнам, аскепкам Рэчы Паспалітай? Эпоха Напалеона моцна падштурхнула наперад польскае нацыянальнае жыццё. Замест Герцагства Варшаўскага паўстала Царства Польскае, якое праіснавала ўсяго 100 гадоў. Нягледзячы на няўдалыя паўстанні, рэпрэсіі, высылкі і канфіскацыі, там ішлі свае культурныя і нацыятворчыя працэсы, што ўрэшце выліліся ў стварэнне незалежнай дзяржавы з Пілсудскім на чале.

Для беларускіх земляў Напалеонаўскія войны — гэта пачатак канца вялікіх магнатаў-землеўласнікаў: Радзівілаў, Сапегаў ды іншых. Яны заангажаваліся ў аднаўленне сваёй страчанай дзяржавы — і прайгралі разам з Банапартам. Край напаткала эканамічная і сацыяльная катастрофа. У выніку неймаверных стратаў Беларусь апынулася спустошанай.

Часам падаецца, што лёс Юзэфа Панятоўскага, Дамініка Радзівіла, шматлікіх нашых суайчыннікаў з ліку шляхты, што ваявалі з Расіяй у 1812 годзе ды пасля, падчас безнадзейных паўстанняў, — гэта змрочны рахунак за глупства і сквапнасць сваіх продкаў, якія пусцілі на вецер краіну ў XVIII стагоддзі. Такая сумная іронія гісторыі, альбо закон кармы — каму як падабаецца. Ці думалі Радзівілы, Патоцкія ды Браніцкія за 50 гадоў да таго, прадаючы і прапіваючы Рэч Паспалітую, як гэта адаб'ецца на іхніх унуках?.. Хто ведае.

Да паўстання беларускай ідэі было яшчэ вельмі далёка. Сёння можна фантазаваць, маўляў, ці не сталася б новая Рэч Паспалітая ці Польшча, у выпадку перамогі Банапарта, наглуха зачыненай брамай для «беларускага праекту»? Ёсць жа прыклад тых жа русінаў-уніятаў Холмшчыны, якія, апынуўшыся ў Царстве Польскім, дзякуючы антаганізму з Расіяй, ператварыліся ў звычайных палякаў-каталікоў. Такія вось пакручастыя сцежкі нацыятварэння ў XIX стагоддзі. А беларуская нацыянальная ідэя, як і ўкраінская, шмат у чым былі ўзгаданыя акурат на сітуацыі памежжа ў зацятым канфлікце паміж Польшчай і Расіяй, але, ні ў якім разе, не пад крылом адной з іх.

### Канец эпохі рыцарства

Сёння лічыцца, што Напалеонаўскія войны забралі жыцці ад 2 да 10 мільёнаў чалавек. Па мерках XX стагоддзя, нібыта і не так шмат, але на той час — гэта фантастычныя лічбы. Так скончылася эпоха рыцарства, калі войны маглі спыняцца ўзімку з-за благога надвор'я, калі крадзеж каровы ці дзясятка курэй быў надзвычайным здарэннем падчас паходу, калі афіцэры з варожых арміяў маглі ласкава саступаць суперніку права страляць першым... Кодэкс і законы Сярэднявечча назаўжды адышлі ў нябыт.

Так няўхільна набліжаўся час татальных войнаў — іншых маштабаў і іншай этыкі. Войны Напалеона нам ужо не бачацца кашмарам, хутчэй прыгожай легендай, казкай пра рыцараў у каляровых мундзірах ды блісучых кірасах. Праз 100 гадоў, у наступнай вялікай вайне, нават для колеру ўжо не застанецца месца — гэта будзе час шэрасці, калі жаўнеры, каб выжыць, прымерацца колеры бруднага акопу, які стане для іх і схованкай, і домам, і брацкай магілай.

# Быць як Макмэрфі

## У Беларусі пачалі чытаць «Палёт над гняздом зязюлі» на роднай мове

Алесь ГІНЗБУРГ

**Кніжная серыя «Амерыканка», заснаваная англамоўнымі беларускімі перакладчыкамі ў 2017 годзе, выпусціла першую ластаўку. Дакладней, зязюлю. Культавы раман Кена Кізі ў перакладзе Аляксея Знаткевіча нарэшце пабачыў свет.**




Прыбытак ад продажаў раману Кізі, як абвясціла рэдактарка серыі Марыя Мартысевіч, пойдзе на друк іншых кніг «Амерыканкі». Наступным выдадуць «Байцоўскі клуб» Чака Паланюка. Яго на беларускую мову пераклаў Серж Мядзведзеў. Падтрымаць новыя кнігі серыі перадзамовай можна будзе ўсю зіму на платформе talaka.by у межах вясёлай кампаніі «Каляды з «Амерыканкай» https://www.talaka.org/projects/2433/overview

Між тым беларускамоўны «Палёт над гняздом зязюлі» і серыя «Амерыканка» трапілі ва ўсе выніковыя агляды і экспертныя рэйтынгі канца 2017 года. Больш за тое: дзякуючы кнізе Кізі ў айчынных СМІ ўвогуле загаварылі аб праблемах перакладу і важнасці выдаваць найлепшае з сусветнай літаратуры. Мы сабралі самыя душэўныя водгукі аматараў творчасці Кізі, якія з'яўляліся ў сацыяльных сетках, пакуль перакладчыкі збіралі грошы для яго выдання на платформе «Улей».

### Аляксандр Фядута, публіцыст, літаратуразнаўца



— Кена Кізі ў часы маёй маладосці я чытаў, зразумела, на рускай мове: кнігу ў таннай сіняй кардоннай вокладцы выдалі ў Новасібірску, і Лёха Мусорын мне яе велікадушна даслаў. Гэта быў кайф. Здаецца, тое быў пераклад вялікага Віктара Голышава. Але, вядома, чытаў я яго таму, што «падсеў» на фільм Мілаша Формана, не падпасці пад жорсткае абаянне якога было немагчыма.

Я чакаў пераклад гэтай кнігі на беларускую мову. Не таму, што там можа з'явіцца нейкая нечаканасць — напрыклад, спецыяльна для гэтага выдання перакладчык зменіць сюжэт, як гэта рабіў, скажам, у былыя часы Барон Брамбеус. Проста пераклад гэтай кнігі стане адказам аднаму скептыку, які сцвярджаў, што нічога геніяльнага на беларускай мове выказаць нельга.

У нас ёсць беларускія Шэкспір і Байран.

У нас ёсць беларускія Камю і Апалінэр.

У нас ёсць беларускія Гесэ і Гофман.

У нас ёсць беларускія Эсхіл і «Калевала».

У нас ёсць беларускія Экзюперы і Туве Янсан.

Яны перакладзеныя класна, і чытаў я іх з задавальненнем.

Кізі — яшчэ адзін крок у развіцці нашай мовы. Пошук адэкватнага раману голасу апавядальніка — справа цяжкая. Спадзяюся, перакладчык з гэтай справай даў рады. Я чалавек стары і безнадзейны. А вось тыя, хто Кена Кізі яшчэ не чытаў, павінны прачытаць яго на добрай беларускай мове.

### Дзмітры Галко, журналіст і блогер



— Гэта было настолькі даўно, што ажно да Лукашэнкі. На летніх канікулах паміж сёмым і восьмым ці восьмым і дзявятым класамі школы.

Да мяне ў госці завітаў аднакласнік і, не заходзячы ў кватэру, на лесвічнай пляцоўцы сунуў у рукі кнігу з жахлівай вокладкай. Кажа, я, маўляў, нічога не зразумеў, але, здаецца, гэта крута. Пачытай, калі ласка, мо патлумачыш мне потым, што тут да чаго (...).

Вокладка кнігі мяне адштурхнула, я вырашыў, што гэта нейкі танны дэтэктыў. Закінуў некуды далёка і згадаў пра яе толькі тады, калі трэба было ехаць працаваць на лецішча: танны дэтэктыў пад гэтую справу — якраз тое, што трэба.

Ні пра якую іншую кнігу я не магу сказаць, што яна «перавярнула маё жыццё». А «Палёт над гняздом зязюлі» зрабіў менавіта гэта.

Дачытаў кнігу — і мяне накрыла: «Дык вось як яно ўсё!» Таксама памятаю адчуванне моцы, рашучасці, нянавісці да сістэмы, якая нас ламае і падпарадкоўвае, перарабляючы на свой капыл, адчайдушнай прагі да свабоды. Пасля яе здавалася, што магчыма ўсё, толькі трэба ўпарта біцца, не скарацца.

Улічваючы, што СССР ужо не было, а Лукашэнкі яшчэ не было, думкі не мелі актуальнага палітычнага характару.

Кізі надоўга зрабіўся маім кумірам. (...) Вельмі шкада, што я не меў магчымасці чытаць яго па-беларуску. І было б крута, каб такая магчымасць з'явілася ў сённяшніх падлеткаў.

### Марыя Вайтовіч, журналіст



— Беларусь больш падобная да агульнай палаты псіхіятрычнай лякарні, дзе пацыенты пакутуюць на сіндром лобнай долі. Гэты сіндром развіваецца пасля аперацыі пад назвай «лабатамія», калі ў мозг уводзіцца пятля, і круцільнымі рухамі праразаецца белае рэчыва нейронавых сувязяў, якія вядуць у лобныя долі з іншымі аддзеламі мозгу. Пасля такой працэдуры ў чалавека парушаецца ўзровень успрымання навакольнай рэчаіснасці, мыслення, памяці; губляецца цікавасць да працы, часта мяняюцца (ці цалкам знікаюць) густы ў музыцы, жывапісе. Эмоцыі прытупляюцца, а чалавек можа ператварыцца ў лёгка кіраваную гародніну.

Менавіта гэтую працэдуру за парушэнне бальнічнага рэжыму (а на справе, за спробу змяніць навакольны свет) гвалтоўна перажыў галоўны герой рамана Кена Кізі «Палёт над гняздом зязюлі» Рэндл Макмэрфі. Чытаючы кнігу, шмат хто кажа, што Беларусі не хапае такога бунтара, які натхніў бы навакольных нарэшце адстойваць свае правы. Хтосьці паспрачаецца, маўляў, Макмэрфі і ёсць наша грамадства, волю якога задушылі бясконцымі эксперыментамі ў заканадаўстве, пагрозамі, недарэчнымі затрыманнямі і судамі. Адно дакладна: ніхто не стане адмаўляць факту, што сёння гэтая кніга напісана як быццам бы пра нас. Хто ведае: магчыма, хаця б у будучыні ў падручніках па беларускай літаратуры з'явяцца творы і пераклады нашых літаратараў, якія сёння ходзяць з намі побач; журналістам больш не давядзецца пісаць па-руску, «каб зразумелі нават тыя, хто не ведае мовы». А яшчэ я ведаю, што аднойчы мая дачка, унучка або праўнучка знойдзе на паліцы «Палёт над гняздом зязюлі», удыхне пах старых старонак, прачытае кнігу і абавязкова падумае: «Ён прынамсі паспрабаваў».

*«Палёт над гняздом зязюлі» можна набыць анлайн у краме symbal.by, а таксама ў кнігарнях «Логвінаў» (пр. Незалежнасці, 37а), «Акадэмкніга» (пр. Незалежнасці, 72) «Сон Гоголя» (вул. Леніна, 15) — у Мінску і ў этнакраме «Цудоўня» (вул. Вялікая Траецкая, 14) — у Горадні.*

---

### Калыханка-Амерыканка На матыў «Summertime»

Андрэй ХАДАНОВІЧ



*Сям і там*
*пачынаецца лета,*
*а ў нас тыдзень*
*валіць снег, і няхай!*
*Мамка п'е*
*самагон з табурэта,*
*цяпнеш — і цёпла,*
*спі, прасыхай!*

*Сям і там*
*капітал муціць бізнес,*
*грамадзяне*
*хочуць хлеба і шайб.*
*А ўначы*
*дастае спінагрыз нас —*
*рэп у калысцы,*
*атамны хайп!*

*Сям і там*
*уцякач на валізе,*
*за мяжой*
*хочуць жыць, і няхай!*
*Спі, не плач —*
*нам адмовілі ў візе,*
*знаючь, як любіш*
*родны свой край!*

*Сям і там*
*выдаюць Кена Кізі,*
*пра вар'ятню*
*не чытай толькі псіх.*
*Хто круты —*
*набывае па кнізе,*
*хто па чатыры —*
*лепшы за ўсіх!*

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №67

Падпісана да друку 19.01.2018. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.